наша свабода

№137(224) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 СНЕЖНЯ 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 284-36-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Апаратчыкаў пакінулі без заробкаў

Лукашэнкаўская «вертыкаль» не будзе атрымліваць заробкаў. Прынамсі датуль, пакуль не зліквідуе запазычанасцю за мінулы месяц. Пра гэта паведаміў у пятніцу прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі, калі прыехаў у міністэрства энергетыкі прадстаўляць новага кіраўніка Уладзіміра Сямашку.

Па словах Г.Навіцкага, урад падпісаў пастанову, паводле якой усе кіраўнікі дзяржаўных структураў – ад старшыняў райвыканкамаў і да членаў ураду і прэм'ер-міністра асабіста – будуць атрымоўваць свой заробак толькі пасля пагашэння запазычанасці за мінулы месяц.

Нагадаем, што, па апошніх звестках, даўгі па заробках складаюць ужо больш за 50 мільярдаў рублёў, і месяц ад месяца гэтая запазычанасць толькі расце. Калі да пачатку прэзідэнцкіх выбараў яна складала каля 0,3% ад агульнага фонду заробкаў, то цяпер перавышае 11%. Узгадаем таксама, што бюджэт краіны на 2001 год паранейшаму недалічваецца 300 мільёнаў рублёў даходаў.

Беларускі прэм'ер-міністр адназначна, што толькі такімі рашучымі дзеяннямі можна дамагчыся эфектыўнага рэагавання чыноўнікаў на вырашэнне праблемаў у гэтай сферы.

З гэтым нават можна было б пагадзіцца, але вядома, што ўсе сённяшнія бюджэтныя праблемы палягаюць у неэфектыўным кіраванні нацыянальнай эканомікай, якая збольшага застаецца дзяржаўнай. І гэтая праблема не вырашаецца «на раз» – нават калі пазбавіць чыноўнікаў заробку назаўсёды. Супраць законаў рынкавай эканомікі не папрэш.

Адсюль вынікае, што свой заробак Генадзь Навіцкі – як і ягоныя намеснікі, міністры і ўсе астатнія чыноўнікі нацыянальнага рангу – атрымае няхутка. Бо калі ўзяць, прыкладам, старшыню нейкага райвыканкаму, то яму выдадуць заробак, калі ўсё будзе нармальна ў ягоным раёне. А гэта зрабіць прыкладна ў 117 разоў прасцей, чым навесці парадак ва ўсёй краіне.

Цікава, як да перманентнага пазбаўлення заробку паставіцца жонка нашага прэм'ер-міністра? Асабліва калі даведаецца, што яе муж сам падпісаў рашэнне, паводле якога цяпер яшчэ доўга будзе прыходзіць дахаты з пустымі кішэнямі? Ці ён ужо нешта назапасіў сабе на чорны дзень?

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Срэбра для Беларусі

Другі этап чэмпіянату свету па біятлоне, што праходзіў у Паклюцы (Славенія), паказаў з лепшага боку нашых біятланістаў.

У эстафетнай гонцы 4х7,5 кіламетраў беларусы выйгралі сярэбраныя ўзнагароды. За 2,5 кіламетры да фінішу Вадзім Сашурын нават меў усе шанцы на золата. Крыўдны промах перакрэсліў гэтыя спадзяванні. Золата ж здабыў аўстрыец Люк Грэдлер. Апроч таго, у гонцы на 20 кіламетраў Вадзім заняў шостае месца, медаль яму заваяваць не даў недарэчны промах толькі ў апошнім з 20 стрэлаў. Нядрэнна ішлі па дыстанцыі і астатнія беларусы, але зноў-такі падвяла трапнасць.

**Аляксей СТАЎСКІ**




Фота IREX/ProMedia

Галоўная плошча краіны за тыдзень да Калядоў

# На галодным пайку

*Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі чакае моцны фінансавы крызіс. Не вельмі шырокая плынь членскіх складак, якая меншала месяц ад месяца, рызыкуе цяпер перасохнуць зусім. Прычына – апошняе рашэнне беларускага ўраду, які нібыта дбае пра «абарону правоў членаў прафсаюзаў».*

У пятніцу стала вядома, што ўрад Беларусі прыняў пастанову, паводле якой, у прыватнасці, касуецца практыка цэнтралізаванага адлічэння праз бухгалтэрыі членскіх складак на рахункі прафсаюзных арганізацый. Замест гэтага працоўныя цяпер мусяць самі разлічвацца з прафсаюзам.

Каментуючы гэтае рашэнне, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў заявіў, што ягонае прынясе значна спрашчае жыццё прафсаюзам. Па ягоных словах, дзяржава цяпер завінавацілася прафсаюзам вялікія сродкі – больш за тры мільярды рублёў, якія не можа аддаць.

Справа ў тым, што, паводле аднаго з рашэнняў Аляксандра Лукашэнкі, заробак супрацоўніка з'яўляецца для прадпрыемства любой формы ўласнасці першачарговым плацяжом. Потым ідуць плацяжы за энергарэсурсы, камунальныя паслугі і г.д. Прафсаюзныя складкі, якія раней цэнтралізавана вылічваліся з штомесячнага заробку кожнага сябра прафсаюза, у лік першачарговых не ўваходзяць. Таму прадпрыемствы, дзе ёсць праблемы з фінансамі, з аднаго боку, не даплочваюць сваім супрацоўнікам грошай, але з другога – не пералічваюць утрыманае на рахунак прафсаюзных арганізацыяў.

Цяпер жа, паводле Савета міністраў, да 1 лютага 2002 года прадпрыемствы ўсіх формаў уласнасці мусяць неадкладна вярнуць сваім працаўнікам утрыманыя сродкі, а тыя, у сваю чаргу, няхай разбіраюцца з сваім прафсаюзам як заўгодна. Такім чынам, трохмільярдны фінансавы цяжар з дзяржавы адразу перакладаецца на іншыя плечы.

*Заканчэнне на стар.3*

# У Фронце без пераменаў

*У Мінску ў Палацы культуры «Сукно» 15-16 снежня прайшоў 7-ы з'езд грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» і V з'езд Партыі БНФ. У яго рабоце прынялі ўдзел 370 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. У якасці запрошаных прысутнічалі прадстаўнікі розных партый і грамадскіх арганізацый краіны. З дакладам выступіў старшыня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ Вінцук Вячорка.*

16 снежня на з'ездзе грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» былі зацверджаны вынікі выбараў кіраўніцтва, што адбыліся напярэдадні. Старшынёй БНФ пераабраны Вінцук Вячорка, які набраў 246 галасоў. Ягоны апанент – Вячаслаў Сіўчык – атрымаў 81 голас.

Намеснікамі старшыні БНФ «Адраджэньне» на з'ездзе абраныя: Юрый Хадыка, які будзе адказваць за знешнюю дзейнасць арганізацыі, Віктар Івашкевіч (правядзенне палітычных кампаній), Павел Севярынец (маладзёжная палітыка і правядзенне масавых мерапрыемстваў) і Галіна Сямдзянава (арганізацыйныя пытанні). Іх кандыдатуры прапанаваў Вінцук Вячорка. У склад Сойму грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» былі абраныя 55 чалавек. Сярод іх – апанент Вячоркі на выбарах старшыні Вячаслаў Сіўчык і каля дзесяці маладафронтаўцаў. Трое са складу ранейшага Сойму (Алесь Пікула, Аляксей Шыдлоўскі і Андрэй Пятроў) пасля галасавання напісалі заявы аб выхадзе з БНФ.

Чарговыя з'езды грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ прынялі шэраг заяваў. Адной з найважнейшых была заява партыйнага з'езду – «Абаронім незалежнасць Беларусі ў новых умовах».

*Заканчэнне на стар.3*



## ВЕСТКІ



### Пераносы працоўных дзён

Савет міністраў прыняў пастанову аб пераносе працоўных дзён у 2002 годзе. Так, працоўныя дні пераносяцца: з 2 студзеня (серада) — на 5 студзеня (субота), з 10 траўня (пятніца) — на 18 траўня (субота), з 13 траўня (панядзелак) — на 25 траўня (субота), з 8 лістапада (пятніца) — на 16 лістапада (субота).

### Ласункаў стане больш

Фабрыка «Камунарка» мае намер павялічыць аб'ёмы вытворчасці і выпускаць каля 30 тысяч тон кандытарскіх вырабаў. Амаль палова іх пойдзе на расійскі рынак. Цяпер каля 40% слодычаў ад «Камунаркі» адпраўляецца ў Расію.

### Крадуць нават дарожныя знакі

На 8-кіламетровым участку дарогі Івацэвічы—Пінск—Столін зламыснікі скралі ўсе дарожныя знакі. ДАІ паставіла новыя, але незвычайных злодзеяў так і не знайшлі.

### Без кандуктараў

Як паведаміў начальнік управы транспарту і сувязі Мінгарвыканкаму У.Сасноўскі, бліжэйшым часам у Мінску праца кандуктараў выкарыстоўвацца не будзе. Рэч у тым, што ў горада проста не знойдзецца грошай на зарплату для іх. Мінску трэба каля 5 тысяч кандуктараў.

### Аўтамабільны бум

Па звестках ДАІ, на Гродзеншчыне з пачатку году прыватныя асобы набылі 40 тысяч легкавікоў. Гэта на чвэрць перавышае аналагічны леташні паказчык.

### Новая FM-станцыя

У Мінску ў FM-дыяпазоне на частаце 105,1 FM пачала вышчаніе яшчэ адна радыёстанцыя. Яна стала ўжо адзінаццатай па ліку. Называецца новая FM-кропка «Аўтарадыё». Тут не будзе ды-джэяў – адна толькі музыка і, магчыма, трохі інфармацыйных праграм.

### Гемалагічны цэнтр

Пры Нацыянальным банку будзе створаны гемалагічны цэнтр. Гэта будзе адзіная ў нашай краіне ўстанова, якая зоймецца ідэнтыфікацыяй, ацэнкай і сертыфікацыяй каштоўных камянёў.

## НАДВОР'Е

Віцебск -10 -12
Мінск -8 -10
Магілёў -9 -11
Гродна -5 -7
Гомель -8 -10
Брэст -3 -5

Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1580

ПРАФСАЮЗЫ

## Недавер кіраўніцтву завода

Пытанне аб недаверы кіраўніцтву Гомельскага радыёзавода будзе разгледжана на пазачарговай прафсаюзнай канферэнцыі, якая прызначана на 15 студзеня 2002 году. Такое рашэнне 13 снежня прыняў прафсаюзны камітэт прадпрыемства, пра што БелаПАНу паведаміў яго старшыня Васіль Сцепанцоў.

Падставай для гэтага паслужыла стыхійнае спыненне вытворчасці некаторых заводскіх цэхаў, якое мела месца напярэдадні. Рабочыя спынілі вытворчасць, выказваючы свой пратэст супраць хранічнай затрымкі з выплатай зарплаты і неналежных умоў працы. Так, нягледзячы на маразы, цэхі не ацяпляюцца, а доўг прадпрыемства перад работнікамі толькі за верасень і кастрычнік складае 335,2 млн. рублёў. Завод, дзе працуюць каля 2 тысяч чалавек, працуе толькі 4 дні ў тыдзень, і не выключана, што ў найбліжэйшы час ён пяройдзе наогул на трохдзённы графік.

Паводле словаў Сцепанцова, парадак дня канферэнцыі яшчэ не зацверджаны ў канчатковым варыянце. Але верагоднасць таго, што пытанне аб недаверы цяперашняму кіраўніцтву завода ў ім застанецца, вельмі вялікая.

БелаПАН

## СЭЗ «Брэст» пашырылі

Згодна з пастановай Савета міністраў Беларусі, пашыраны межы свабоднай эканамічнай зоны «Брэст». У яе ўключаны тэрыторыі акцыянерных таварыстваў «Брэсцкі электрамеханічны завод», «Брэсцкі радыётэхнічны завод», рэспубліканскіх унітарных прадпрыемстваў «Брэсцкі электралямпавы завод», «Машынабудаўнічы завод» і завода «Колератрон».

Самі прадпрыемствы не ўвайшлі ў СЭЗ і не сталі рэзідэнтамі зоны. У зону ўвайшлі толькі іх тэрыторыі. Гэта азначае, што на пустых плошчах прадпрыемстваў цяпер змогуць месціцца вытворчасці рэзідэнтаў зоны. Зараз гэта вельмі важна, паколькі для будаўніцтва інфраструктуры на тэрыторыі зоны ў рамках аэрапорта няма сродкаў. У канцы лістапада ў раёне аэрапорта закладзена першая цагліна на будаўнічай пляцоўцы. Рэзідэнт зоны — ЗП ЗАТ «БЕЛС» — рызыкнуў першым пачаць там будаўніцтва. У цагліне знаходзіцца сімвалічная капсула з пасланнем да нашчадкаў. Мяркуецца, што ў недалёкай будучыні тут будзе горад-спадарожнік. Акрамя расійскага прадпрыемства «БЕЛС», якое мае намер пабудаваць тут мэблевую фабрыку, на гэтай тэрыторыі маюць намер весці будаўніцтва яшчэ пяць рэзідэнтаў.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

МІЛІЦЫЯ

## Кожны чацвёрты рубель — «сілавікам»

Старшыня Гомельскага аблвыканкаму Аляксандр Якабсон мае намер даведацца, як упраўленне ўнутраных справаў распарадзілася атрыманымі бюджэтнымі асігнаваннямі. Адпаведнае даручэнне кіраўнік «вертыкалі» даў на пасяджэнні каардынацыйнай рады па прафілактыцы правапарушэнняў, якое прайшло 15 снежня.

Паводле словаў губернатара, міліцыя з бюджэту атрымала 2 млрд. 989 млн. рублёў, а дадаткова ёй было выдзелена 1 млрд. 290 млн. рублёў. «Я вымушаны спытаць за гэтыя грошы, куды яны патрачаны», — сказаў Якабсон, падкрэсліўшы, што толькі палову злачынстваў міліцыі ўдаецца раскрыць. Губернатар асабліва зазначыў, што яго цікавіць, якая частка гэтых грошай даходзіць да «самых нізоў» — участковых інспектараў, якія непасрэдна працуюць з насельніцтвам.

Намеснік міністра ўнутраных справаў Леанід Глухоўскі, які прысутнічаў на пасяджэнні, паведаміў, што ў цэлым у рэспубліцы «кожны чацвёрты рубель ідзе на ўтрыманне сілавых структур». А вынікі працы міліцыі сведчаць пра тое, што «мы фактычна распісваемся ў сваім бяссіллі», — сказаў Глухоўскі.

БелаПАН

## Вучань Бендэра

Супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Брэсцкага аблвыканкаму затрымалі 26-гадовага жыхара Брэсту, які шляхам махлярства на працягу трох месяцаў зарабіў 2 мільёны рублёў.

Спосаб для такога заробку Ігар Н. знайшоў у нататцы газеты «Аргументы и факты» пад рубрыкай «Уголок О.Бендера». Гэты спосаб заключаецца ў тым, што махляр рассылаў лісты накладной платай, а потым ад адрасатаў атрымліваў паштовыя пераводы. Ігар Н. купіў даведнік «Бізнес-Беларусь», прыдумляў бізнес-прапановы і накіроўваў іх у фірмы накладной платай. Атрымліваючы гэтыя каштоўныя лісты, прадстаўнікі фірм плацілі за іх ад 6 да 9 тысяч рублёў, з якіх каля тысячы атрымлівала пошта, астатняе — махляр. Ігар Н. вёў запісы, дзе адзначаў назвы фірм, куды ён адпраўляў лісты і адкуль атрымаў грашовыя пераводы. За тры месяцы брэстаўчанін атрымаў грашовых пераводаў на суму ў 2 мільёны рублёў. Пра гэта сведчаць бланкі паштовых пераводаў, знойдзеныя ў кватэры пры вобыску.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## П'яная злачыннасць

«Мы маніпулюем грамадскай думкай, кажучы, што ў нас крымінагеннае становішча нармалізавалася», — такую заяву 15 снежня зрабіў загадчык аддзелу па каардынацыі адміністрацыйных органаў Гомельскага аблвыканкаму Рыгор Івончык, выступаючы на пасяджэнні абласной каардынацыйнай рады па прафілактыцы правапарушэнняў.

Паводле словаў Рыгора Івончыка, кожнае пятае правапарушэнне ў рэспубліцы прыпадае на Гомельскую вобласць, што з'яўляецца самым высокім паказчыкам, а раскрывальнасць — адна з самых нізкіх у краіне — каля 50 працэнтаў. Адна з прычын ускладнення крыміналеннага становішча — п'янства насельніцтва. У вобласці налічваецца каля 20 тысяч хранічных алкаголікаў, а 105 тысяч чалавек — кожны дзесяты жыхар працаздольнага ўзросту — прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за п'янства.

Ірына ШАНЦАВА

## Свята без цяпла

Дзіцячы садок, школа, паліклініка і частка жылых дамоў у пасёлку Яроміна Гомельскага раёну засталіся без ацяплення і гарачай вады. Прычына гэтаму — паломка абсталявання кацельні ў калгасе імя XXII з'езду КПСС, якая ацяпляе гэтую частку паселішча.

Аварыя адбылася яшчэ 11 снежня. Сельсавет распарадзіўся закрыць дзіцячы садок і дазволіў не наведваць школу вучням малодшых класаў. А старшакласнікі прыходзяць на заняткі ў верхняй вопратцы, і сядзяць у класах, не здымаючы пальчатак.

У канторы калгаса вельмі халадна. Як паведаміў БелаПАНу 14 снежня намеснік старшыні гаспадаркі Юрый Феафілаў, у кацельні зламаўся адзін з двух насосаў, а таксама пацяклі адразу ўсе чатыры катлы. Паводле яго словаў, абсталяванне кацельні настолькі старое, што прамысловасць ужо даўно не выпускае такой прадукцыі. «Дзіркі» латаюцца падручным матэрыялам, а адпаведную помпу знайшлі ў Мінску. Юрый Феафілаў заявіў, што, верагодна, цяпло паступіць не раней, чым праз тыдзень.

Трэба адзначыць, што літаральна днямі Гомельскі райвыканкам адзначыў 75-годдзе раёну. Грошы на ўрачыстасці збіралі ў тым ліку і з прадпрымальнікаў, часам шантажуючы іх нявыдачай ліцэнзіі або адмовай у рэгістрацыі. Дарэчы, матэрыялы, якія сведчаць аб гэтым, накіраваны ў абласную пракуратуру. А на прафілактыку абсталявання кацельні сродкаў у раёне своечасова не знайшлося.

Ірына ШАНЦАВА

ЗАНЯПАД

## У лідэрах па інфляцыі

Сярод краін СНД Беларусь мае самыя нізкія тэмпы росту валавога ўнутранага прадукту і самую высокую інфляцыю. Такую выснову можна зрабіць на падставе звестак Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта аб выніках развіцця эканомікі дзяржаў Садружнасці за 10 месяцаў 2001 году.

У студзені-кастрычніку рост ВУП у Беларусі склаў 3 працэнты да адпаведнага леташняга перыяду. Між тым, напрыклад, у Грузіі аб'ём валавога ўнутранага прадукту павялічыўся на 4,8 працэнта, у Расіі — на 5,7, у Кіргізіі — на 6, у Азербайджане — на 9,4, у Арменіі — на 9,6, у Таджыкістане — на 10,9. Па ўзроўні росту прамысловай вытворчасці (4,4 працэнта) Беларусь размяшчаецца ў ніжняй частцы спіса. Горшыя паказчыкі толькі ў Арменіі (3,3 працэнта) і Грузіі (зніжэнне на 0,8 працэнта). Інфляцыя ў студзені-кастрычніку 2001 году ў дачыненні да адпаведнага перыяду 2000 году склала ў Беларусі 65,3 працэнта, у Таджыкістане — 42,7, у Малдове — 10, у Казахстане — 8,7, у Кіргізіі — 7,6, у Грузіі — 5, у Азербайджане — 1,6.

Беларусь займае другое месца па ўзроўні адмоўнага сальда ў гандлі з краінамі СНД (за 9 месяцаў 2001 году) — 782,7 млн. даляраў. Горшы паказчык толькі ва Украіны — 2 млрд. 913,3 млн.

Дзмітрый УЛАСАЎ

## Паўтары сотні абмарожаных

У перыяд з 7 па 14 снежня ў Беларусі ад пераахалоджання пацярпелі каля 140 чалавек.

Як паведаміў БелаПАНу галоўны ўрач Мінскай гарадской станцыі хуткай дапамогі Віталій Фяцішын, у Мінску, у прыватнасці, за названы перыяд у гарадскія бальніцы з-за пераахалоджання трапілі 19 чалавек. Ён адзначыў, што пацярпелыя былі дастаўлены ў аддзяленні прыёмнага пакою з дыягназамі «пераахалоджанне» і «абмаражэнне канечнасцяў». Прычым большасць з іх знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Паводле словаў медыка, за гэты перыяд лятальных зыходаў па рэспубліцы зафіксавана не было.

Вольга АСІПЕНКА

ЭПІДЭМІЯ

## Грып за эпідэмічным парогам

Найбуйнейшыя гарады Магілёўскай вобласці знаходзяцца на парозе эпідэміі грыпу. На гэтым тыдні ўжо ўступілі ў дзеянне мерапрыемствы комплекснага плана прафілактыкі гэтага захворвання, прыняты частковыя абмежаванні на правядзенне масавых мерапрыемстваў і відовішчаў.

Паводле звестак на 14 снежня, найбольш цяжкае эпідэмічнае становішча складаецца ў другім па велічыні горадзе вобласці — Бабруйску. Тут узровень захворвання на грып перавысіў эпідэмічны парог у 2,9 раза. У Магілёве — у 2,2 раза. У абласным цэнтры па медыцынскую дапамогу штодзённа звяртаюцца каля 600 чалавек, якія захварэлі на грып. Эпідэмія абвяшчаецца, калі эпідэмічны парог захворвання перавышаецца ў тры разы на працягу трох дзён.

Канстанцін УВАРАЎ

## Беларусы — чэмпіёны КВЗ

Зборная каманда БДУ другі раз стала чэмпіёнам Вышэйшай лігі Міжнароднага саюзу КВЗ і першым чэмпіёнам XXI стагоддзя. 15 снежня ў зале Маскоўскага палаца моладзі (МПМ) яна перамагла ў фінальнай гульні каманду «Стомленыя сонцам» (Сочы). Гульня ў запісе цягнулася 2 гадзіны 46 хвілін 30 секунд. У эфіры канала ОРТ яна будзе паказана 30 снежня.

БелаПАН

ФЭСТ

## Музыка гітарыстаў

19 снежня ў Палацы культуры МТЗ пройдзе III фестываль гітарыстаў «Грыфаманія-2001». «Грыфаманія» абмяжуецца адным днём выступленняў віртуозаў гітарнай музыкі, таксама ўпершыню гэта будзе фестываль не толькі для рок-гітарыстаў: стылёвыя рамкі «Грыфаманіі» пашырацца да выканання блюзу, джазу, фламенка.

Маша ПЯТРОВА

ВЫДАТНАСЦІ


Фота Ул. ШЛАПАКА

Будынак мінскай пажарнай каманды 19 ст. Раней з варотаў гэтага дома пажарныя выязджалі на конях.

## Сустрэча з амбасадарам АБСЕ

13 снежня 2001 году кіраўніцтва ТБМ сустрэлася са сп. Хансам Георгам Вікам, кіраўніком групы АБСЕ ў Беларусі. На сустрэчы было абмеркавана сучаснае становішча беларускай мовы ў нашай краіне ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця. Прадстаўнікі ТБМ паднялі пытанне аб стварэнні з дапамогай АБСЕ беларускамоўнага незалежнага спадарожнікавага тэлеканала, а таксама беларускамоўных перадач на радыё «Бі-Бі-Сі» і «Нямецкая хваля».

Амбасадар параіў падрыхтаваць некалькі аўдыёперадач і відэафільмаў пра гісторыю беларускай мовы і культуры і перадаць іх на тэлеканалы суседніх краін з мэтай прапаганды беларушчыны.

Сустрэча прайшла ў цёплай, прыязнай атмасферы і доўжылася каля гадзіны.

А.Г.

АДУКАЦЫЯ

## Вучоба за мяжой, не пакідаючы Беларусі

З 2001 году ў Беларусі рэалізуецца трохгадовы праект, падтрыманы *UNESCO*, — па трансферы праграмы інфарматыкі ўніверсітэту Мангейма ў Беларусь. Праект рэалізуецца на тэхналогіях дыстанцыйнага навучання і дазволіць беларускім студэнтам, не пакідаючы краіны, атрымліваць адукацыю ў другім па рэйтынгу ўніверсітэце свету.

«Сумесна з Асацыяцыяй цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх камп'ютэрных сетак (CEENET) мы праводзім работу па стварэнні тэхналогіі дыстанцыйнага навучання, — паведаміла ў інтэрв'ю БелаПАНу кандыдат тэхнічных навук Ганна Вальчэўская. — У Беларусі ўжо больш за дзесяць чалавек навучыліся па еўрапейскай праграме метадалогіі і тэхналогіі дыстанцыйнага навучання. З беларускага боку ў гэтай праграме бяруць удзел як студэнты, гэтак і выкладчыкі, якія праводзяць навучанне ў дыстанцыйным асяроддзі».

Як зазначыў дырэктар навукова-інжынернага прадпрыемства «Інфармацыйныя тэхналогіі» доктар тэхнічных навук Міхаіл Маханёк, «тэхналогіі дыстанцыйнага навучання значна павышаюць якасць навучання студэнтаў і могуць прадухіліць адток з краіны таленавітай моладзі, якая жадае атрымаць адукацыю за мяжой».

Юрый КАСЬЯНАЎ

# У Фронце без пераменаў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У ёй гаворыцца, што «пасля правядзення выбарчага фарсу 9 верасня 2001 году, на аснове якога Лукашэнка абвясціў сябе кіраўніком беларускай дзяржавы на наступныя 5 гадоў, абвастрылася пагроза незалежнасці нашай краіны». Для Лукашэнкі адзіны шлях разлічыцца за падтрымку, аказаную яму расійскімі палітычнымі коламі падчас выбараў, — «здача беларускага суверэнітэту». І таму цяпер «здача незалежнасці» выходзіць на практычны ўзровень, адзначаюць аўтары заявы. У якасці прыкладу прыводзяцца факты распрацоўкі ў Расіі і Беларусі праектаў законаў аб выбарах у саюзны парламент і Канстытуцыйнага акту. У заяве адзначаецца, што правядзенне выбараў у парламент Саюзнай дзяржавы і асабліва ўдзел у іх дэмакратычных сіл Беларусі нясе пагрозу міжнароднай легітымізацыі саюзнага ўтварэння, дагэтуль нікім не прызнанага. На думку аўтараў дакумента, гэта не прынясе ніякай дэмакратызацыі беларускаму ўнутрыпалітычнаму жыццю, а наадварот — антыдэмакратычная сістэма, атрымаўшы дадатковую легітымізацыю, толькі ўмацуецца. Таму, адзначаецца ў дакуменце, з'езд даручае кіраўніцтву Партыі БНФ пачаць кансультацыі з іншымі дэмакратычнымі палітычнымі і грамадскімі сіламі краіны дзеля выпрацоўкі ўзгодненай пазіцыі, накіраванай супраць стварэння саюзнага парламенту. Аўтары заявы заклікалі прадстаўнікоў беларускіх кіраўнічых структур, юрыстаў, эканамістаў, прадпрымальнікаў — усё грамадства ў цэлым не падтрымліваць нераўнапраўных і кабальных для Беларусі саюзных пагадненняў з Расійскай Федэрацыяй. Аўтары заявы звярнуліся таксама і да расійскіх палітычных сілаў з прапановай задумацца пра адмоўныя наступствы «ўключэння лукашэнкаўскага рэжыму ў расійскае палітычнае поле». Яны заклікалі расійскіх палітыкаў выступіць разам супраць магчымых выбараў у саюзны парламент, якія толькі ўмацуюць «рэтраградныя левыя імперскія палітычныя сілы» Расіі. У дакуменце змяшчаецца і заклік да парламентаў усіх дэмакратычных краін свету, міжнародных арганізацый не прызнаваць выбараў і рэферэндумаў, якія абмяжоўваюць або ліквідуюць суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, не прызнаваць створаных па іх выніках структураў.

З'езд партыі прыняў таксама заяву аб адзінстве дэмакратычных сіл, а з'езд грамадскага аб'яднання — заявы «Супраць рэжыму — за Беларусь!» і аб пераследзе сябраў БНФ «Адраджэньне» — удзельнікаў выбарчай кампаніі.

Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец лічыць, што актыўная пазіцыя маладых дэлегатаў на з'ездах грамадскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, якія прайшлі ў Мінску, у некаторай ступені паўплывала на іх рашэнні. «Мы стараліся зрабіць усё "па максімуме". Паставілі пытанне аб праграме БНФ і, нарэшце, з'езд згадзіўся, што неабходна правесці спецыяльны форум, на якім трэба абмеркаваць і прыняць новыя праграмы грамадскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ. Мы абавязкова павінны самавызначыцца са сваім месцам у новай палітычнай сітуацыі. Мы разлічваем, што менавіта наш праект будзе прыняты за аснову і стане ідэалогіяй БНФ», — сказаў Севярынец.



В.Вячорка і В.Сіўчык


Фота Ул.ШЛАПАКА

Да адмоўных вынікаў працы з'езда лідэр Маладога Фронту аднёс тое, што аднаму з аўтарытэтных членаў арганізацыі — Вячаславу Сіўчыку — «не знайшлося месца ў кіраўніцтве і не была прынята пазіцыя меншасці, што падтрымала Сіўчыка». «Я лічу, што ён адзін з лепшых фронтаўскіх менеджэраў, і хацеў бы бачыць яго на пасадзе як мінімум адказнага сакратара ўправы БНФ. Я ўсё ж спадзяюся, што Вячаслаў Сіўчык зможа дапамагаць і Маладому Фронту, і ў правядзенні акцый», — лічыць Севярынец.

На з'ездзе, на думку Паўла Севярынца, праявіўся і некаторы антаганізм Маладога Фронту і часткі «старэйшых таварышаў». «Праблема «бацькоў і дзяцей» адносіцца да разраду вечных. Рызыкну сказаць, што тут адбіваюцца і розныя ідэалогіі. Маладыя сябры арганізацыі куды больш надаюць значэння духоўнай, хрысціянскай сутнасці нацыянальнага руху, што, натуральна, не падабаецца пакаленню, якое вырасла ў Савецкім Саюзе. Мы не хочам сказаць, што ўсе сябры БНФ ужо «састарэлі». Але лічым, што арганізацыі неабходна настаўнае і грунтоўнае аднаўленне, і рана ці позна мы яго даможамся — і ў праграмных адносінах, і ў арганізацыйных, і ў палітычных».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# V з'езд КХП-БНФ

16 снежня ў Мінску адбыўся V з'езд Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ і грамадскага аб'яднання. У з'ездзе бралі ўдзел каля 150 дэлегатаў, госці з Польшчы. Быў зачытаны справаздачны даклад старшыні партыі Зянона Пазьняка.

Старшыня даў ацэнку сітуацыі ў Беларусі, прааналізаваў дзейнасць партыі. Зянон Пазьняк назваў «складанымі ўмовамі» інфармацыйную блакаду, якую нібыта праводзіць у адносінах да яго партыі шэраг сродкаў масавай інфармацыі, стварэнне «псеўдапазіцыі», дзейнасць кіраўніка Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханса-Георга Віка, якая нібыта накіравана на легітымізацыю рэжыму Лукашэнкі і адбываецца ў рамках саюзу паміж Расіяй і Германіяй.

Галоўнай задачай партыі стане неабходнасць дамагацца справядлівых і свабодных выбараў прэзідэнта Беларусі пад міжнародным пратэктаратам.

Выканаўца абавязкаў старшыні КХП-БНФ Юрый Беленькі выступіў са справаздачным дакладам Сойму партыі.

У другой частцы з'езду прайшлі выбары кіраўніцтва. На пасаду старшыні партыі вылучылі адзінага кандыдата – Зянона Пазьняка. У выніку тайнага галасавання ён быў абраны аднагалосна – за яго аддалі галасы 144 дэлегаты. Пасля яго абрання пачалося вылучэнне намеснікаў старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ.

**БелаПАН**

# «Бацькі» і «дзецi»

«Малады Фронт» – гэта незалежны самастойны маладзёвы рух. Але разам з тым, МФ – найбліжэйшы саюзнік БНФ, гэта арганізацыя, якая натуральным чынам перарастае ў БНФ, але роўна настолькі, наколькі гэта патрэбна для эфектыўнай працы. Мы не збіраемся сыходзіць з-пад крыла БНФ і працуем у самых цесных стасунках», – заявіў 15 снежня лідэр незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт Павел Севярынец.

Так адрэагаваў лідэр МФ на досыць рэзкі выпад у свой адрас з боку старшыні БНФ Вінцука Вячоркі. «Малады Фронт мусіць дакладна вызначыцца са статусам арганізацыі: ці МФ застаецца маладзёвым крылом БНФ, ці цалкам выходзіць з БНФ і становіцца абсалютна самастойнай арганізацыяй. Я думаю, што трэба выбраць першы варыянт. У адваротным выпадку адносіны паміж намі будуць не адносінамі як паміж бацькамі і дзецьмі», – сказаў В.Вячорка. Больш за тое, старшыня БНФ, не называючы імёнаў, абвінаваціў П.Севярынца ў клерыкалізме. «Рэлігія – рэч настолькі інтымная, што яе нельга падводзіць пад палітычную барацьбу», – падкрэсліў В.Вячорка.

«Поспех Маладога Фронту ўва многім звязаны з яго самастойнасцю. Мы не збіраемся, натуральна, адмаўляцца ад самастойнасці: у нас ёсць свая праграма, свой статут, сваё кіраўніцтва, і ўсе прынцыповыя рашэнні мы прымаем самастойна. Больш за тое, я лічу, што ўплыў Маладога Фронту ў БНФ з цягам часу будзе ўзмацняцца. З цягам часу прыйдзецца ставіць пытанне, што абноўлены БНФ – гэта той самы МФ, які проста вырас і заняў святое месца – абаронцы нацыянальных інтарэсаў», – заявіў Павел Севярынец.

**Ягор СУМНЫ**

# ПАСЕ пераносіць візіт

Візіт у Беларусь спецыяльнай місіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, запланаваны на канец снежня, пераносіцца на першую палову студзеня. Гэта звязана з надыходам калядных святаў.

Рашэнне аб накіраванні спецыяльнай рабочай групы ў Мінск дзеля маніторынгу прынята на паседжанні Палітычнага камітэта ПАСЕ месяц таму ў Вільнюсе (Літва). Місія мае намер правесці маніторынг унутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі да пачатку сесіі ПАСЕ, якая мае адбыцца ў студзені ў Парыжы. У рамках сесіі пройдзе паседжанне Палітычнага камітэта ПАСЕ, на якім спецыяльная рабочая група паведаміць пра вынікі маніторынгу. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13 склікання Анатоль Лябедзька.

Па выніках візіту місіі ў Беларусь Палітычны камітэт ПАСЕ мусіць падрыхтаваць рэкамендацыі адносна магчымага аднаўлення статусу «спецыяльна запрошанай» для Беларусі. Варта нагадаць, што, не прызнаўшы лістападаўскі рэферэндум 1996 году, 13 студзеня 1997 году ПАСЕ пазбавіла Беларусь статусу «спецыяльна запрошанай» у гэтай міжнароднай арганізацыі.

Між тым ПАСЕ не збіраецца адступаць ад чатырох умоваў, пастаўленых перад беларускімі ўладамі яшчэ напярэдадні парламенцкіх выбараў. У іх развіццё былі сфармуляваныя яшчэ дзве дадатковыя ўмовы: увесці пасаду ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Беларусі і скасаваць смяротнае пакаранне. Аднак афіцыйны Мінск спрабуе выставіць апошнія дзве ўмовы як адступленне ПАСЕ ад ранейшай пазіцыі.

**Рыгор БУЯН**

# На галодным пайку

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

І тут пачынаюцца праблемы ў ведамства Уладзіміра Ганчарыка. У якасці вялікага падарунка ФПБ ад савецкіх часоў засталася спадчына – права збіраць прафсаюзныя складкі праз бухгалтэрыю прадпрыемстваў. У савецкія часы гэта было практычна абавязковым. Пасля 1991 году гэты парадак не змяніўся. Працаўнікі давалі на гэта згоду, і 1% ад іхняга заробку аўтаматычна ўтрымліваўся на карысць ФПБ. Самі гэтых грошай працаўнікі не бачылі.

1% – гэта зусім няшмат, але калі ўлічыць, што, паводле сайта *praca.by*, у ФПБ цяпер больш за 4 мільёны сябраў, то сума атрымліваецца прыстойная. За гэтыя грошы існуе апарат функцыянераў ФПБ, фінансуецца ўтрыманне вялізных будынкаў, тэлефонныя перамовы і г.д.

Цяпер перад кожным сябрам прафсаюза ў дзень палучкі паўстае канкрэтнае пытанне: ці аддаваць гэтыя 500 рублёў, тысячу альбо дзве прафсаюзам? Ці маюць яны на гэта права? Ці надзейна абаранілі яны працоўныя правы? І нават калі так, ці не спатрэбяцца гэтыя грошы на нешта, больш неабходнае для дома, для сям'і або нават для сустрэчы з сябрамі ў бліжэйшым шапіку з півам?

З другога боку, нават калі ўсе будуць усведамляць, што плаціць прафсаюзам — вельмі неабходна і важна, і пажадаюць зрабіць свой ўнёсак, то што мы атрымаем? Вялізныя чэргі ў банках з ахвотных перавесці прафсаюзам свой 1%. Нагадаем, дэкларуецца, што сябраў ФПБ у дзесяцімільённай Беларусі – больш за 4 мільёны. Таму трэба будзе сем разоў падумаць, перш чым стаць у чаргу.

У такіх умовах можа атрымацца, што плаціць свае прафсаюзныя складкі здолеюць толькі «ідэйныя» сябры. А такіх, паводле статыстычных звестак, бывае не больш за 10-20%. Адпаведна скароціцца і фінансавыя паступленні ў касу ФПБ.

Віктар Галаванаў па-езуіцку заявіў, што гэтая пастанова прымалася ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, яна не парушае Канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы і ўвогуле скіравана на далейшую абарону правоў працоўных, а перш за ўсё членаў прафсаюза. Сапраўды, у іншых краінах не практыкуецца, каб бухгалтэрыі прадпрыемстваў аўтаматычна пералічалі прафсаюзныя або нейкія іншыя складкі, нібы аліменты. Там працаўнік асэнсавана робіць свой выбар, калі штомесяц плоціць грошы ў прафсаюзную касу. Але там ён сочыць, за што ён плоціць прафсаюзным дзеячам. І тыя, ведаючы, што ад іх патрабуецца, сапраўды да апошняга б'юцца за тое, каб гаспадары падвышалі заробак, падаўжалі аплочаны адпачынак, аплочвалі медычны бюлетэнь, не скарачалі супрацоўнікаў і ўвогуле не закрывалі прадпрыемства.

Праблема яшчэ і ў тым, што ў Беларусі фактычна толькі адзін сур'ёзны гаспадар – дзяржава, і яна вельмі нервова рэагуе на спробы «эканамічнага шантажу», на які вадзіцца ісці прафсаюзам. Больш за тое, можна яшчэ адзначыць і глыбокую памылковасць дзеючай улады, якая так і не здолела дараваць старшыні ФПБ Уладзіміру Ганчарыку выклік, які быў кінуты перад 9 верасня.

Беларускія прафсаюзнікі толькі пачынаюць вучыцца тактыцы эканамічнай барацьбы. І цяпер ім тэрмінова трэба пачынаць актыўна дзейнічаць – інакш усе ФПБшныя функцыянеры з У.Ганчарыкам на чале рызыкуюць збіраць прафсаюзныя складкі, седзячы проста на прыступках будынкаў на праспекце Машэрава і на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску і падстаўляючы капялюш. Можа, хто і падасць...

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Тэракты ў ЗША сніліся ім увесь год

## Пераклад таемнай гутаркі бін Ладэна з аднадумцамі пасля тэракту 11 верасня, якая сведчыць пра іх віну

*Як сцвярджаюць эксперты, запіс рабіўся з ведама ўсіх прысутных. Запіс цягнецца каля гадзіны і складаецца з трох частак: наведанне месца падзення амерыканскага верталёта і два фрагменты гутаркі ў ходзе візіту бін Ладэна і ягоных баевікоў да невядомага шэйха.*

**Шэйх:** (*неразборліва*) ... Ты даў нам зброю, ты даў нам надзею, і мы дзякуем Алаху за цябе. Мы не просім шмат твайго часу, гэта ўмова паміж братамі. Народ нас падтрымлівае ўсё больш і больш, нават тыя, хто раней не падтрымлівау. Я не займу шмат твайго часу. Славім Алаха, славім Алаха. Мы з Кабулу. Гэтыя адведкі нам вельмі спадабаліся. Мы папрасілі кіроўцу нас туды адвезці, была ноч і поўня, хвала Алаху. Старэйшыны... усе хваляць цябе за тое, што ты зрабіў; вялікі подзвіг – вось што ты ўчыніў, перадусім, з дабраславенства Алаха. Гэта кіраўніцтва Алаха і дабраславёны плод джыхаду.

**Асама бін Ладэн:** Хвала Алаху. Як там (*у Саудаўскай Аравіі. – Заўвага перакладчыка*) да гэтага ставяцца мячэці?

**Шэйх:** Шчыра кажучы, вельмі станоўча. Шэйх Аль-Бахрані прамовіў цудоўную казань пасля малітвы на заходзе сонца. Яе знялі на відэа, і я меўся яе прывезці, але, на жаль, мусіў адразу з'язджаць.

**Асама бін Ладэн:** У дзень падзеяў?

**Шэйх:** Якраз у часе атакі на Амерыку, дакладна ў гэты час. Ягоная (*Бахрані*) казань зрабіла вельмі моцнае ўражанне. Слава Алаху за яго дабраславенствы. Ён (*Бахрані*) быў першым, хто стаў пісаць у час вайны.

**Асама бін Ладэн:** Хвала Алаху.

**Шэйх:** Гэта тое, чаго я прасіў у Алаха. Ён (*Бахрані*) сказаў моладзі: «Вы хочаце мучаніцтва і шукаеце, дзе вам яго знайсці?» Алах падахвоціў іх пайсці. Я маліў Алаха даць мне магчымасць засведчыць праўду перад аблічам няправеднага ўладара. Мы молім Алаха абараніць яго і даць яму мучаніцтва пасля таго, як ён выдаў першую фатву. Яго затрымалі, пачалі дапытваць, ты ведаеш. Калі да яго прыйшлі і сказалі падпісацца, ён сказаў ім: «не марнуйце майго часу, у мяне іншая фатва. Калі вы так хочаце, я падпішу абедзве разам».

**Асама бін Ладэн:** Хвала Алаху.

**Шэйх:** Ягоная пазіцыя сапраўды вельмі натхняе. Калі я быў у яго першым разам года паўтара назад, ён спытаў мяне: «Як маецца шэйх бін Ладэн?» Ён шле табе знакі сваёй асаблівай пашаны. У дачыненні да шэйха Сулеймана Ульвана ён даў цудоўную фатву, дабраславі яго Алах. Цудам я пачуў ягоны выступ праз радыё Каран. Было дзіўна, бо ён жа ахвяраваў сваёй пасадай, роўнай пасадзе дырэктара. Ягоны выступ запісалі слова ў слова. Браты слухалі ягоны выступ вельмі ўважліва. Я яго таксама паслухаў перад паўдзённай малітвай. Ён сказаў, што гэта быў джыхад, і што тыя людзі (*ахвяры тэрактаў у Сусветным гандлёвым цэнтры і ў Пентагоне. – Заўв. пер.*) не былі нявіннымі. Ён прысягнуў Алаху. Гэта пераказалі шэйху Сулейману (аль-Умару), дабраславі яго Алах.

[...]

**Асама бін Ладэн:** (*неразборліва*) ...калі людзі бачаць дужага каня і слабога каня, яны, натуральна, выбіраюць дужага каня. Гэта толькі адна мэта; тыя, хто хоча, каб людзі пакланяліся Пану людзей, але не спаўняюць гэтай навукі, будуць спаўняць вучэнні Мухамеда, хай будзе мір над ім. (*Далей бін Ладэн цытуе некалькі выказванняў з ісламскае кнігі хадысаў*): «Мне было загадана ваяваць з людзьмі, пакуль яны не скажуць, што няма Бога, акрамя Алаха, і прарок яго — Мухамед». «Сёй-той можа спытаць: чаму ты хочаш ваяваць з намі?» «Ёсць сувязь паміж тымі, хто кажа: «Я веру ў Бога і Мухамед – прарок яго», і тымі, хто не...» (*неразборліва*). «Тыя, хто не выконвае сапраўднага фікху (дактрыны аб правілах паводзінаў мусульман. – *Заўв. пер.*). Фікху Мухамеда, сапраўднага фікху. Яны проста прымаюць усё, што ім кажуць, так, як яно выглядае». Тыя хлопцы, якія правялі аперацыю, не прызнавалі фікху ў агульнапрынятым сэнсе, але яны прынялі той фікх, які прынёс прарок Мухамед. Гэтыя маладыя людзі... (*неразборліва*) ...сказалі сваімі ўчынкамі, у Нью-Ёрку і Вашынгтоне, такія прамовы, якія зацьмілі ўсе іншыя прамовы ў свеце. Прамовы, зразумелыя і арабам, і неарабам – нават кітайцам. Гэта вышэй за ўсё, што казалі ў СМІ. Нехта з іх казаў, што ў Галандыі, у адным з цэнтраў, людзей, якія прынялі ў наступныя некалькі дзён іслам, было больш, чым за мінулыя адзінаццаць гадоў. Я чуў праз Ісламскае радыё выступ гаспадара адной школы ў Амерыцы, які сказаў: «Мы не паспяваем адказваць людзям, якія просяць ісламскіх кніг, каб пазнаць іслам». Гэтая падзея прымусіла людзей задумацца (*пра сапраўдны іслам. – Заўв. пер.*), што зрабіла ісламу выдатную паслугу.

**Шэйх:** Сотні людзей сумняваліся ў табе, і толькі нямногія ішлі за табою да гэтых вялікіх падзеяў. Цяпер да цябе прыходзяць сотнямі. Я памятаю відзежу шэйха Саліха аль-(Шуябі). Ён сказаў: «Будзе вялікі ўдар, і сотні людзей паедуць у Афганістан». Я спытаў яго: «У Афганістан?» Ён адказаў: «Так». Ён сказаў, што адстануць толькі дурні і хлусы. Я памятаю, ён сказаў, што сотні людзей паедуць у Афганістан. Гэтае відзенне было яму год назад. Гэтая падзея правяла розніцу паміж рознага кшталту паслядоўнікамі.

**Асама бін Ладэн:** (*неразборліва*) ...мы загадзя падлічылі колькасць ахвяраў ворага, зыходзячы з таго, як размешчана вежа. Мы падлічылі, што будзе знішчана паверхі тры-чатыры. Я быў найбольшым аптымістам з іх усіх... (*неразборліва*) ...паводле майго досведу ў гэтай галіне я думаў, што агонь ад паліва ў самалёце расплавіць металічны каркас гмаху і разбурыць толькі тое месца, куды ўдарыць самалёт, і ўсе паверхі над ім. Гэта ўсё, на што мы тады спадзяваліся.

**Шэйх:** Хвала Алаху.

**Асама бін Ладэн:** Мы былі ў... (*неразборліва*) ...калі гэта адбылося. Нас папярэдзілі ў чацвер перад тым, што падзея адбудзецца ў гэты дзень. Мы скончылі працу ў той дзень і ўключылі радыё. Было 5:30 вечара па нашым часе. Я сядзеў з доктарам Ахмадам абу-аль(-Хайрам). Адразу ж мы пачулі навіну, што самалёт урэзаўся ў Сусветны гандлёвы цэнтр. Мы пераключыліся на навіны з Вашынгтону. Навіны працягваліся, але пра атаку да іх канца не згадвалася. У канцы навінаў яны перадалі, што самалёт толькі што ўрэзаўся ў Сусветны гандлёвы цэнтр.

**Шэйх:** Хвала Алаху.

**Асама бін Ладэн:** Праз нейкі час паведамілі, што яшчэ адзін самалёт урэзаўся ў будынак Сусветнага гандлёвага цэнтру. Нашыя браты, пачуўшы гэтую вестку, напоўніліся радасцю.

**Шэйх:** Я сядзеў і слухаў навіны. Мы не... мы ні пра што такое не думалі, і раптам так, без дай прычыны, па волі Алаха, мы загаварылі толькі пра тое, што толькі што нічога не было, і раптам такія навіны. Усіх перапаўняла радасць, і так працягвалася да наступнага дня, да 4 гадзін раніцы, мы слухалі навіны, кожны раз з новымі падрабязнасцямі. Усе радаваліся і ўсклікалі: «Алах вялікі», «Алах вялікі», «Слава Алаху», «Хвала Алаху». Шчасце маіх братоў і мяне напоўніла шчасцем. Тэлефонныя віншаванні таксама ішлі беспярастанку. Мама ўвесь час адказвала на тэлефонныя званкі. Слава Алаху, Алах вялікі, уздамо падзяку Алаху.

**Шэйх** (*цытуе верш з Карану*): «Змагайцеся з імі, Алах аддасць іх на мукі, ён паддасць іх мукам вашымі рукамі. Ён падмане іх і падорыць вам перамогу. Алах даруе верным, ён ведае ўсё, што дзеецца».

**Шэйх:** Без сумнення, гэта поўная перамога. Алах спаслаў нам... гонар... і ён пашле нам дабраславенне і новыя перамогі падчас святога месяца рамадан. На гэта ўсе спадзяюцца. Хвала Алаху, Амерыка выйшла са сваіх пячораў. Мы нанеслі ёй першы ўдар, і нанясем наступны рукамі вернікаў, добрых вернікаў, дужых вернікаў. Клянуся Алахам, гэта вялікі подзвіг. Алах рыхтуе табе вялікую ўзнагароду за тваю працу. Даруй, што гавару пры табе, але гэта думкі, проста думкі. Бо няма іншага бога, апроч Алаха. Я шчаслівы, шчаслівы... Вельмі доўга я не звёдваў і не адчуваў такога. Я прыгадваю словы Аль-Рабані, ён сказаў, што яны ўтвораць супраць нас кааліцыю зімой з няверным накшталт турак і з іншымі, і з нейкімі іншымі арабамі. Яны атачылі нас, як у дні... у дні прарока Мухамеда. Тое ж самае адбываецца і цяпер. Але ён суцешыў сваіх паслядоўнікаў словамі: «Усё пераменіцца і абернецца супраць іх саміх». У гэтым – ягоная ласка для ўсіх нас. І яго дабраславенства. І гэта верне да нас людзей. Зірні, які ён мудры. І Алах дабраславіць яго. Настане дзень, калі сімвалы ісламу ўздымуцца, і гэта будзе як у часы Аль-Муджахедзіна і Аль-Ансара. Перамога будзе за тымі, хто ідзе шляхам Алаха. Урэшце, гэта тое ж самае, што і ў старыя часы, часы Абу-Бакра, Атамана, Алі і іншых. Цяпер, у нашыя дні, гэта будзе найвялікшы джыхад у гісторыі ісламу і ў гісторыі нашага супрацьву ліхім людзям.

**Шэйх:** Клянуся Алахам, мой шэйх. Віншуем Вас з Вашай вялікай працай..

*(Першая частка запісу канчаецца. Другая частка):*

**Асама бін Ладэн:** Абдула Азам, хай дабраславіць Алах яго душу, казаў мне нічога не запісваць... (*неразборліва*) ...я вырашыў, што гэта добры знак, і Алах дабраславіць нас...(*неразборліва*) ...Абуаль-Хасан Аль(-Масры), які з'явіўся на канале «Аль-Джазіра» пару дзён назад і звярнуўся да амерыканцаў са словамі: «Калі вы сапраўдныя мужчыны, прыйдзіце сюды і станьце з намі твар у твар»... (*неразборліва*) ...Ён казаў мне год назад: «Мне снілася, як мы гуляем у футбол з амерыканцамі. Калі наша каманда з'явілася на полі, яны ўсе былі пілотамі!» Ён сказаў: «Я здзівіўся, хто тут гуляе: футбалісты ці пілоты? Усе нашы гульцы былі пілотамі!» Ён (*Абу-Хасан*) нічога не ведаў пра аперацыю, пакуль не пачуў пра яе па радыё. Ён казаў, што тады гульня прадоўжылася, і мы выйгралі. Гэта быў добры знак.

**Шэйх:** Дабраславёны хай будзе Алах.

**Невядомы чалавек за кадрам:** Абд-аль-Рахман-аль(-Гамры) казаў, што яму было відзенне перад аперацыяй, што самалёт урэзаўся ў высокі гмах. Ён нічога пра гэта не ведаў.

**Сулейман (Абу-Гуят):** Я быў з шэйхам у адным пакоі, потым я перайшоў у іншы пакой, дзе стаяў тэлевізар. Па тэлевізары перадавалі гэтую вялікую падзею. На экране была егіпецкая сям'я ў сябе дома, іх усіх перапаўняла радасць. Ведаеце, калі гуляюць у футбол і выйграе твая каманда, выраз радасці бывае якраз такі. Там былі субтытры: «Помсцячы за дзяцей Аль-Аксы, Асама бін Ладэн здзяйсняе аперацыю супраць Амерыкі». Тады я вярнуўся да шэйха (*маецца на ўвазе Асама бін Ладэн. – Заўв. пер.*), які быў у пакоі з 50 ці 60 людзьмі. Я паспрабаваў расказаць яму, што я бачыў, але ён жэстам спыніў мяне: «Я ведаю, я ведаю...»

**Асама бін Ладэн:** Ён не ведаў пра аперацыю. Не кожны ведаў... (*неразборліва*) ... За ўсю групу адказваў Мухамад (Ата) з егіпецкай сям'і (*маецца на ўвазе егіпецкі аддзел «Аль-Каіды». – Заўв. пер.*).

**Шэйх:** Ніхто не мог і ўявіць, што самалёт урэжацца ў высотны гмах. Гэта была выдатная праца. Ён быў адным з самых пабожных людзей у арганізацыі. Ён стаў мучанікам. Хай дабраславіць Алах яго душу.

**Шэйх:** Відзежа самалёта, які ўразаецца ў высотны гмах, была не толькі яму, а і яшчэ некальным людзям. Адзін добры і рэлігійны чалавек кінуў усё і прыйшоў сюды. Ён распавядаў мне: «Мне была відзежа: я ў вялікім самалёце, доўгім і шырокім. Я нясу яго на плячах з дарогі ў пустыню, прыблізна паўкіламетра. Я цягну самалёт». Я слухаў яго і маліў Алаха дапамагчы яму. Другі чалавек распавядаў мне, што ён бачыў летась, але я не зразумеў яго і сказаў яму, што не разумею. Ён сказаў: «Я бачыў людзей, якія пайшлі на джыхад... і яны апынуліся ў Нью-Ёрку... у Вашынгтоне і Нью-Ёрку». Я запытаў: «Што гэта значыць?» Ён адказаў, што самалёт уразаецца ў будынак. Гэта было летась. Мы не надалі гэтаму вялікай увагі. Але калі гэта сталася, ён прыйшоў да мяне і сказаў: «Ты бачыў?.. Як гэта дзіўна». Ёсць у мяне і яшчэ адзін чалавек. Божа... Ён сказаў і пакляўся Алахам, што яго жонка бачыла гэтую падзею за тыдзень да таго, як яна сталася. Яна бачыла, як самалёт уразаецца ў будынак... неверагодна, божа мой.

**Асама бін Ладэн:** Браты, якія здзейснілі гэтую аперацыю – усе яны ведалі, што гэта будзе акцыя мучанікаў, і мы сказалі кожнаму з іх ехаць у Амерыку, але яны не ведалі нічога пра саму аперацыю, ніводнае літаркі. Але яны прайшлі падрыхтоўку, а мы не раскрывалі ім падрабязнасцей, аж пакуль яны там не апынуліся, датуль, як трэба было падняцца на борт... (*неразборліва*)...потым ён сказаў: Тыя, хто вучыўся лятаць, не ведалі другіх. Адна група не ведала другой групы... (*неразборліва*)...

*(Нехта ў натоўпе просіць Асаму бін Ладэна расказаць шэйху пра сон Абу-Дауда):*

**Асама бін Ладэн:** Мы былі ў лагеры аднаго з нашых братоў у Кандагары. Гэты брат належаў да большыні ў групе. Ён падышоў да мяне і расказаў, што бачыў у сне высотны гмах у Амерыцы, і ў тым жа сне ён бачыў Мухтара, які вучыў яго каратэ. У гэты момант я пачаў непакоіцца, што таямніца можа выйсці навонкі, раз яна ўсім пачала сніцца. Таму я закрыў гэтую тэму. Я сказаў яму, што калі ён яшчэ ўбачыць сон, то каб нікому пра гэта не расказваў, а то людзям гэта не спадабаецца.

*(Чуваць яшчэ адзін голас з успамінамі пра сон, у якім два самалёты ўразаюцца ў вялікі гмах).*

**Асама бін Ладэн:** Яны напоўніліся радасцю, калі першы самалёт урэзаўся ў гмах, і я сказаў ім: набярыцеся цярпення... Розніца паміж першым і другім самалётам, калі яны ўрэзаліся ў будынкі, склала 20 хвілін. А розніца паміж першым самалётам і тым, што ўрэзаўся ў Пентагон, склала адну гадзіну.

**Шэйх:** Яны (амерыканцы) былі ў жаху. Яны думалі, што адбыўся пераварот.

*(Айман Аль-Завары кажа, што спачатку ён захапіўся прадбачаннем бін Ладэна пра тое, што скажуць СМІ. Потым ён кажа, што гэта першы раз, калі амерыканцы адчулі, што на іх насоўваецца небяспека. – Заўв. пер.).*

usnews.about.com





# Калі паімчыць новая «Пагоня»?

## З галоўным рэдактарам закрытай судом гродзенскай газеты «Пагоня» Міколам МАРКЕВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт Сяргей АСТРАЎЦОЎ



***– Галоўная навіна на сёння тая, што М.Маркевіч аштрафаваны на 50 мінімальных заробкаў Ленінскім судом Гродна – за тое, што ён з калегамі пратэставаў на вуліцы супраць знішчэння газеты. Суд прыняў такое рашэнне праз месяц пасля закрыцця «Пагоні». У шапіку яе болей не купіш, але, тым не менш, яна працягвае выходзіць.***

– Мы рэгулярна зараз абнаўляем свой сайт. Гэта адзіная магчымасць займацца сваёй прафесійнай дзейнасцю. Хаця трэба адзначыць, што інтэрнэт-версія газеты – гэта зусім іншая рэч, чымсьці папяровае выданне. Аднак гэты час вымушанага, я б сказаў, адпачынку выкарыстоўваем дзеля таго, каб зрабіць лепшым дызайн «Пагоні» ў інтэрнэце. У самыя бліжэйшыя дні мы абновім свой сайт, яго навігацыю. Ён стане больш зручным, прывабным.

Усё, што датычыць Гродна, Гродзеншчыны і сумежжа нашага – Беласточчыны і Віленшчыны, – цікаўны чалавек, які блукае па інтэрнэце, знойдзе на нашым сайце.

***– А наконт наведнікаў вашага сайту што можна сказаць?***

– Колькасць наведнікаў не зменшылася ў параўнанні з тым часам, калі выходзіла газета. Але гэта не вельмі вялікая лічба — 50 чалавек на дзень. Гэта непараўнальна з тысячамі чытачоў, якія былі раней.

Нас натхняе тое, што дагэтуль у рэдакцыю прыходзяць лісты чытачоў. Яны абураюцца тым, што адбылося, і задаюць адно і тое ж пытанне: калі выйдзе газета? Я абяцаю ўсім ім, што мы абавязкова абвесцім аб выхадзе новай газеты, якую будзе рабіць калектыў «Пагоні». І я абяцаю, што гэта будзе газета не горшая, а нават лепшая за «Пагоню».

***– У вас ёсць надзея на рэгістрацыю новага выдання?***

– Увесь гэты час мы збіраемся ў рэдакцыі, каб абмеркаваць канцэпцыю будучага выдання. Каб прадумаць нават паасобныя тэмы. Мы прыкладзем усе намаганні дзеля рэгістрацыі новай газеты. Іншая рэч, што ўлада паказала: яна баіцца вольнага слова. Сёння відавочна, што ва ўсіх кутках Беларусі, а не толькі ў Гродне, улады робяць усё, каб не дапусціць у сябе стварэння новых газет. Паказальны ў гэтым сэнсе прыклад «Новай газеты Смаргоні», спробы яе рэдактара Рамуальда Улана зарэгістраваць новыя газеты ў суседніх раёнах. Улады баяцца слова, яны змагаюцца з ім.

***– Адмаўляюць яны стандартна і, здавалася б, нейтральна: немэтазгодна размяшчаць у горадзе новую газету.***

– Ну тут, трэба сказаць, пэўная логіка ёсць. Для гэтых людзей вольнае слова, непадкантрольнае ім, сапраўды немэтазгодна. І гэтая немэтазгоднасць не мае нічога супольнага з інтарэсамі грамадства. Я ўсё часцей успамінаю выказванне знакамітага прэзідэнта Злучаных Штатаў Джэферсана, які сказаў: калі б мне прапанавалі выбраць паміж урадам і незалежнай прэсай, я выбраў бы незалежную прэсу. На вялікі жаль, нашыя чыноўнікі, у тым ліку наш прэзідэнт, як выглядае, не толькі не ведаюць гэтага выказвання, але нават не разумеюць — пра што ў ім гаворыцца. Адсюль і вынікі. Нашай Беларусі вельмі далёка да дабрабыту Амерыкі і іншых дзяржаў, у тым ліку нашых суседзяў, якія прынялі за ўзор арганізацыю грамадства дэмакратычнага. Пры якой людзі маюць магчымасць кантраляваць дзеянні сваіх чыноўнікаў, у тым ліку і праз незалежную прэсу.

***– Партыі на закрыццё «Пагоні» адрэагавалі млява, абыякава. Але варта сказаць пра тых, хто падтрымаў вас у краіне і за мяжой.***

– У ліку тых, хто актыўна падтрымаў нас, гэта калегі – Беларуская асацыяцыя журналістаў, Асацыяцыя незалежнага рэгіянальнага друку і чытачы. Сотні водгукаў. Больш актыўна адрэагавалі за мяжой. У Вільнюсе ў дзень паседжання Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы віленскія беларусы арганізавалі нават пікет. Сярод тых, хто падтрымаў нас, такія вядомыя і аўтарытэтныя арганізацыі, як *Article 19*, «Рэпарцёры без межаў», Міжнародная ліга правоў чалавека. Мы ім удзячныя.

***– Калі вярнуцца да вашых планаў наконт будучага выдання, як яно можа называцца?***

– У адным з варыянтаў слова «Пагоня» ўжываецца ў шыльдзе, каб захаваць пераемнасць. Але ёсць і іншыя. Мне самому падабаюцца такія, якія сведчаць аб тым, што газета застанецца па-ранейшаму беларускай, што будзе глядзець на свет беларускімі вачыма – такія назвы, як «Трыбуна», «Беларускі голас», «Гоман». Яны ўжо ўжываліся ў гісторыі беларускага незалежніцкага друку.

***– У якім стане разгляд яшчэ адной — крымінальнай — справы супраць газеты, якая ўжо закрыта?***

– Крымінальную справу па факце публікацыяў у 36-м нумары «Пагоні», канфіскаваным яшчэ ў друкарні, улада давядзе да канца. Калі мяне судзілі, суддзя Дземчанка нагадаў, што я браў вельмі актыўны ўдзел у праводзінах нелегітымнага прэзідэнта ў 1999 годзе. І быў пакараны штрафам.

Усё сведчыць пра тое, што ў гэтай улады няма ніякіх маральных прынцыпаў і бар'ераў. І што яна можа існаваць толькі, калі будзе прадукаваць у грамадстве страх.

Усе гэтыя сённяшнія словы пра лібералізацыю эканамічных адносін разлічаныя на заходнееўрапейскіх дурненькіх, якія абсалютна не ўяўляюць, што, акрамя выхавання на падставе Бібліі, ёсць яшчэ выхаванне на *Скотным двары*. Як у Оруэла. У мяне складаецца ўражанне, што многія з тых, хто вызначае палітычнае аблічча Беларусі, — гэта выхаванцы *Скотнага двара*, кухарчыны дзеці. У самым горшым сэнсе гэтага слова.

***– У рэдакцыі яшчэ за два месяцы да закрыцця арыштавалі камп'ютэры і два наклады. Што з імі стала?***

– Камп'ютэрная тэхніка наша была абсалютна незаконна канфіскавана пракуратурай. А таксама два наклады газеты, перадвыбарчы – 36 нумар, і паслявыбарчы – 37-ы. Яны дагэтуль знаходзяцца ў сховішчы пракуратуры. Я зразумеў па настроі следчага і ягонага начальства, што яны самі не ведаюць, што з гэтым рабіць. Не закрыўшы крымінальную справу, аддаць нам нашую маёмасць? Але яе кошт эквівалентны 5 000-5 500 даляраў. Працягваць гэтую справу таксама немагчыма, бо няма складу злачынства. Я думаю, яны не ведаюць, што рабіць, бо не атрымалі загад з Мінску наконт канчатковага рашэння.

# БТ засудзілі за хлусню

13 снежня ў судзе Першамайскага раёну Мінску завяршыўся доўгі разгляд грамадзянскага іску старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзькі да кінарэжысёра, аўтара серыяла «Тайныя спружыны палітыкі» Юрыя Азаронка. Суддзя Леанід Ясіновіч, які змяніў захварэўшую Алену Ананіч, часткова задаволіў іск Лябедзькі.



Як гаворыцца ў пастанове суду, устаноўлена, што 22 сакавіка 2001 году па канале Беларускага тэлебачання (з паўторам 29 сакавіка 2001 году) была паказана аўтарская праграма Азаронка «Тайныя спружыны палітыкі», у якой дэманстраваліся розныя зманціраваныя відэаматэрыялы. У прыватнасці, у гэтай праграме прагучала, што пасля паездкі ў Польшчу дабрабыт Лябедзькі павялічыўся як мінімум на 8 500 умоўных адзінак. На пытанне «за кошт чаго?» аўтар праграмы робіць выснову, што «Лябедзька або прадаў свае штаны на варшаўскай барахолцы, або пасняхова жабраваў...».

Судом устаноўлена, што Лябедзька неаднаразова выязджаў за межы Рэспублікі Беларусь і пры выездзе і ўездзе запаўняў мытныя дэкларацыі. Названыя ў іх сумы, якія вылічаліся некалькімі дзесяткамі даляраў і невялікімі сумамі ў польскіх злотых і беларускіх рублях, абсалютна не адпавядаюць прагучаўшым у праграме Азаронка. Заслухаўшы ў судовым паседжанні паясненні бакоў і прагледзеўшы відэазапіс аўтарскай праграмы Азаронка, суд прыйшоў да высновы, што «звесткі, распаўсюджаныя ў аўтарскай праграме ў дачыненні да Лябедзькі, не адпавядаюць рэчаіснасці. Адказчыкам не прадстаўлена, а судом не здабыта доказаў, якія б пацвярджалі дакладнасць распаўсюджаных у праграме звестак», – гаворыцца ў пастанове. Гэтыя звесткі прызнаны ганьбай для годнасці і дзелавой рэпутацыі Лябедзькі, паколькі з'яўляюцца зневажальнымі і непрыстойнымі па форме для істца і падлягаюць абвяржэнню ў сродках масавай інфармацыі.

Суд вырашыў, што Юрый Азаронак павінен абвергнуць гэтыя звесткі па Беларускім тэлебачанні. У якасці матэрыяльнага пакрыцця маральнага ўрону, нанесенага Лябедзьку, суд вырашыў спагнаць на карысць Лябедзькі з Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі 600 тысяч рублёў, а з Азаронка – 400 тысяч рублёў. У астатняй частцы іску суд адмовіў Лябедзьку, які прасіў суд спагнаць з Беларускага тэлебачання 5 мільёнаў, а з Азаронка – 10 мільёнаў рублёў. Судовыя выдаткі, панесеныя Лябедзькам, будуць кампенсаваны за кошт Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і Азаронка.

Анатоль Лябедзька заявіў, што задаволены і здзіўлены гэтым рашэннем суду. «Магчыма, новы склад прэзідэнцкай адміністрацыі не ў такой ступені выкарыстоўвае тэлефоннае права, як папярэднікі. Магчыма, гэта і прынцыповая пазіцыя суддзі. І па-трэцяе, хлусня, паказаная па БТ, была настолькі відавочнай, што паверыць ёй маглі толькі людзі, у якіх з псіхікай яўныя праблемы», – сказаў Лябедзька ў гутарцы з журналістамі пасля заканчэння працэсу. Ён нагадаў, што ў шматсерыйнай праграме «Тайныя спружыны палітыкі» быў узведзены паклёп не толькі на яго, але і на многіх іншых беларускіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

**ПОШТА**

# Новы вектар

Дарагая рэдакцыя, я сталы чытач НАШАЙ СВАБОДЫ. І я хачу падзяліцца з іншымі чытачамі сваімі думкамі наконт праблемы аб'яднання Беларусі з Расіяй, якое цяпер актыўна фарсіруюць палітыкі Мінску і Масквы, ды паразважаць пра тое, куды яно можа завесці і як павярнуцца для народу. Папросту мне ёсць з чым параўноўваць, бо жыву я ў Карэліі, у «аб'яднаным» суб'екце Федэрацыі.

Ці існуе ў Беларусі свой нацыянальны інтарэс? Адказ адзіны – так. Для палякаў, немцаў, украінцаў, рускіх мы – беларусы. І нам неабходна адстойваць свае нацыянальныя інтарэсы. За беларусаў гэта не будуць рабіць ані літоўцы, ані палякі, ані рускія. Для рускіх Беларусь толькі вароты ў Еўропу і паўночна-заходні край, ускраіна іхнай імперыі. Гэта лёгка даказаць на прыкладах. Зараз Карэлія ўваходзіць у склад Расіі. Жыццё не цукар, як і па ўсёй Расіі, узровень жыцця вельмі нізкі, а побач знаходзіцца квітнеючая Фінляндыя. З 1809 г. па 1917 г. яна ўваходзіла ў склад Расійскай Імперыі. З 30 лістапада 1939 г. па 12 сакавіка 1940 г. ішла савецка-фінская вайна. Масква захацела зноў падпарадкаваць сабе Хельсінкі. Арганізаваўшы правакацыю на мяжы, СССР напаў на Суомі. Фіны змагаліся мужна і адстаялі незалежнасць. Уявім сабе на імгненне, што не. Тады Фінляндыя зноў бы ўвайшла ў склад СССР, а потым Расіі. І сёння фінаў напаткаў бы сумны лёс карэлаў.

Калі параўнаць гэтыя дзве рэспублікі, то, паводле клімату, тэмпературнага рэжыму, структуры глебы, прыродных багаццяў, яны вельмі блізкія, падобныя. Як народы, карэлы і фіны (а таксама лапары) уваходзяць у вугра-фінскую групу народаў, ва ўральскую сям'ю. Шмат у іх роднага, акрамя аднаго – улады. Фіны самі вырашаюць, што ім выгадна, а карэлы робяць тое, што выгадна Маскве. Вынік відавочны – квітнеючая Фінляндыя і жабрацкая Рэспубліка Карэлія. Палітычная незалежнасць ад Расіі – найважнейшая ўмова росквіту Фінляндыі. А мы, беларусы, самі гатовыя аддаць тое, што папросту неабходнае для шчаслівага жыцця і для будучыні нашых дзяцей. Аддаць свабоду...

Трохі на поўнач ад карэлаў жывуць лапары (саамы). Тутэйшая Лапландыя з цэнтрам у п.Лавозера. Нядаўна па расійскім тэлебачанні паказвалі рэпартаж з Лавозера. Пра тутэйшае жыццё расказвала лапарка – хавальніца краязнаўчага музею. Спачатку яна расказвала пра гісторыю лапароў – аленяводаў, потым пра беднасць і бязвыхаднасць сучаснага жыцця, у якім адна радасць – гарэлка. Яны, як прачнуцца, адразу ідуць у адзін з баракаў, дзе месціцца віна-гарэлачная крама. Што тут дзіўнага, спытаеце вы? Для нас – беларусаў і рускіх – нічога. Самі сядзім з чаркай таннага віна і худасочнага сала. Дзіўна іншае. Побач жа вельмі добра жывуць фінскія і нарвежскія лапары. Лічыцца, што Санта-Клаус прыходзіць з фінскай Лапландыі і прыносіць падарункі, радасць і надзею ў кожны дом на зямлі. А што прынясе Дзед Мароз з Лавозера? Можа, пляшку барматухі?

Згадаю яшчэ адзін рэпартаж расійскага ТБ пра жыццё нарвежскіх лапароў. Гэта было каля Кіркенесу ў Нарвегіі (раней гэтыя землі належалі Фінляндыі). Паказвалі добрыя дамы, светлыя твары людзей. Распавялі пра тое, што захацелася лапарам пабудаваць праваслаўную царкву. Але выйшла няўвязка з мясцовымі ўладамі, і маскоўскае ТБ тут як тут: дыскрымінацыя лапароў, не даюць свабоды веравызнання. Будзьце ўпэўненыя, што нарвежскія ўлады вырашаць гэ-



Фота Ул.ШЛАПАКА

Усё жыхарства адной вёскі

тую праблему, а крамлёўскія ўлады праблемы сваіх народаў не вырашаць. Так было і так будзе яшчэ вельмі доўга. Крэмль не можа вырашыць свае праблемы, дык чаму ён зможа вырашыць беларускія?

Задамо яшчэ адно пытанне. Як выглядаў бы Выбарг, калі б яго не далучылі да Ленінградскай вобласці ў 1940 г. пасля савецка-фінскай вайны? Гэта быў звычайны фінскі дагледжаны гарадок. Сёння – спусташэнне і бязвыхаднасць. СССР вырашаў свае стратэгічныя задачы, адсоўваў межы ад Ленінграду. Дык забяспечце на заваяваных землях годнае жыццё! Нашто Расіі гэтыя землі, калі яна не можа забяспечыць належны парадак? Такое самае пытанне задала сабе жыхарка Суомі, калі прыехала нядаўна наведаць мясціны, дзе прайшло яе дзяцінства. У ейных бацькоў была вельмі добрая сядзіба непадалёк Сартавалы (гэтыя землі таксама адышлі ў 1940 г. пад юрысдыкцыю Масквы). Цяпер там сметнік.

У XIX ст. Расія захапіла чукчаў і алеутаў. Затым, у 1867 г., прадала Аляску Паўночна-Амерыканскім штатам. І дзе цяпер Аляска? На якім узроўні развіцця? І дзе тая Чукотка?

Выснова простая: пераход пад уладу Расіі – пагаршэнне жыцця не толькі свайго, але і сваіх дзяцей і ўнукаў. Бо Крамлю абыякава – ці Беларусь вольная, ці яна квітнее.

Уся няздарнасць і тупасць маскоўскіх уладаў бачная на прыкладзе Калінінградскай вобласці, былой Усходняй Прусіі. Сельская гаспадарка на нулі, узровень горадабудаўніцтва блізка нуля і да т.п. А побач Літва і Польшча, дзе за 10 гадоў вольнага жыцця ў асноўным вырашылі гэтыя пытанні: якасная і недарагая ежа, нашмат вышэйшы ўзровень сярэдняй зарплаты, сучасны і якасны транспарт, дабротныя дамы і г.д.

«У Расіі нафта і газ», – скажаце вы. Дык зірніце на карту Еўропы і скажыце, дзе ёсць нафта і газ. Ёсць трохі (Румынія, Нарвегія), а жывуць нашмат лепш, чым у Расіі. Значыць, справа не ў іх, а ў эфектыўным выкарыстанні таго, што ёсць, людскіх, інтэлектуальных, геаграфічных і г.д. рэсурсаў. Законы эканомікі гэтаксама аб'ектыўныя, як законы хіміі і фізікі. І калі наша кіраўніцтва і расіяне кажуць пра свой непаўторны шлях, то гэта аблуда. Мяняць трэба кіраўніцтва і вектар шляху.

**Сяргей ВЫСАКОВІЧ,**
**Петразаводск**

# Звычайнае забойства

*Прычын, чаму здараюцца забойствы, шмат: пасля супольнага застолля ахвяры і забойцы; з-за побытавых разборак паміж сваякамі. Кажучы пратакольнай моваю, не апошнюю ролю граюць карыслівыя матывы і пачуццё помсты. А могуць забіць і проста так.*

### Маўчанне не золата, а жыццё

Прыйшоўшы з працы, бацькі ўбачылі свайго сына Андрэя нежывым. Ён сканаў ад мноства нажавых ран. З кватэры былі скрадзеныя відэа- і аўдыёмагнітафоны, плеер, курткапілот. Не перадаць стану маці, якая яшчэ гадзіну назад званіла дадому і размаўляла з сынам.

Сышчыкі высветлілі, што ў трагічны дзень хлопец пайшоў са школы пасля другога ўроку, спаслаўшыся на кепскае самаадчуванне.

Міліцыянеры дапыталі і дактыласкапавалі каля васьмідзесяці чалавек: знаёмых і сваякоў падлетка. З аператыўных матэрыялаў стала вядома, што кожныя канікулы Андрэй гасцяваў у дзеда і бабулі ў Віцебскай вобласці. Там у яго з'явіліся знаёмыя, з якімі ён сябраваў. І аднойчы сказаў ім, што яго бацькі сабралі кругленькую суму, каб купляць іншамарку. Гэта было на апошніх канікулах. Андрэй прыехаў у Мінск і, магчыма, забыў пра сваё дурное выхваляньне. Але не забылі «сябры»: двое непаўналетніх і адзін дарослы, якога былі судзілі за крадзеж. Праз два тыдні пасля канікулаў яны патэлефанавалі Андрэю. Сказалі, што збіраюцца прыехаць у сталіцу па пакупкі, і прасілі яго быць гідам па мінскіх рынках.

Злачынцы прыехалі загадзя, знялі кватэру. Увечары, напярэдадні забойства, яны патэлефанавалі Андрэю, дамовіліся пра сустрэчу. Якраз таму ён і сышоў з урокаў, а не праз нездароўе. Бацькам хлопец пра меркаваную сустрэчу нічога не сказаў.

Па дарозе са школы ён купіў бутэльку гарэлкі (прадаў жа нехта яе непаўналетняму). Пакуль Андрэй з адным са злачынцаў піў на кухні гарэлку, двое другіх шукалі ў пакоі грошы. Нічога не знайшоўшы, пачалі збіваць, катаваць юнака. Той кляўся, што такіх грошай у яго бацькоў ніколі не было, ён проста пажартаваў, захацелася павыхваляцца. Узлаваныя злачынцы вырашылі забіць хлопца.

Сышчыкі іх вылічылі, праверыўшы ўваходныя і выходныя званкі ў кватэру Андрэя. Выехалі ў Віцебскую вобласць і затрымалі злачынцаў. Па дарозе ў Мінск забойцы раскалоліся. Але кожны прыменшваў сваю ролю ў гэтай справе. І толькі на вочных стаўках дэталёва праясніўся ўдзел кожнага ў забойстве.

### Апошняя размова па мабільніку

У паспяховай сталічнай фірме амаль два гады працаваў жыхар Гомелю. Справы ішлі добра, Вадзім падабраў сабе кватэру ў арэнду і меўся прывезці ў Мінск сям'ю. Гэтую навіну ён і абмяркоўваў з сябрамі за куфлем піва. Таго ж вечара ён збіраўся ехаць у Гомель. У Мінску жыла яго аднакурсніца, яна папрасіла зайсці да яе, каб забраць невялікую пасылку для яе бацькоў. Вадзім нешта купіў у краме «Парк» і ішоў да дому аднакурсніцы, размаўляючы з ёю праз мабільны тэлефон. Адлегласць ад крамы да дому была не большая за 400 метраў, і дзяўчына бачыла з балкону, як Вадзім ідзе да яе. Падышоўшы да дзвярэй пад'езда, ён спытаўся ў яе код. Далей яна пачула, што да яго падышлі двое і прапанавалі дапамагчы адчыніць дзверы. Апошняе слова Вадзіма, якое яна пачула, было «Дзякуй», і адрасавалася яно незнаёмцам. Тэлефонная сувязь з Вадзімам перарвалася, і за пяць хвілін ён не з'явіўся ў кватэры, хоць дзяўчына чула, што ліфт паехаў. Яна зноўку выйшла на балкон: Вадзіма было не відаць. Пачакаўшы яшчэ пяць хвілін, дзяўчына патэлефанавала ў міліцыю. Апергрупа знайшла ў кабіне ліфта Вадзімава цела з дзвюма смяротнымі ранамі. У ахвяры забралі мабільны тэлефон і зарплату за некалькі месяцаў — каля 600 000 рублёў. На працягу сутак злачынства было раскрыта. Злачынцы аказаліся аднолькава жорсткія, скваплівыя і дурныя. Яны пачалі званіць праз мабільнік, што і дазволіла сышчыкам іх затрымаць. Забойцамі аказаліся асобы, раней асуджаныя за рабунак. Адзін з іх — наркаман.

> За дзевяць месяцаў бягучага году ГУУС Мінгарвыканкаму зарэгістравала 98 забойстваў. Працэнт раскрывальнасці гэтых злачынстваў – 81,6. За аналагічны перыяд мінулага году было зарэгістравана 107 забойстваў.

### Каму свята...

Пасля шматдзённага святкавання ў кватэры знайшлі два трупы: мужчыны 50-ці гадоў і жанчыны 35-ці гадоў. Яны жылі ў грамадзянскім шлюбе. Мужчыну некалькі разоў ударылі па галаве, а жанчына ўся была страшна парэзаная. У кватэры – лужыны крыві. Неўзабаве міліцыя знайшла забойцаў. Імі аказаліся сабутэльнікі гэтае пары. Яны прыйшлі адзначыць свята, але ўзнікла сварка. Апошнім аргументам высвятлення адносін сталі нажы і цяжкія прадметы. Сярод шасці забойцаў бальшыня і раней трапляла ў поле зроку міліцыі за розныя парушэнні. Чарговае шматдзённае святкаванне, немалая доза спіртнога давялі да апошняе мяжы некалькі чалавек.

### Статыстыка не цешыць

Калі прааналізаваць міліцэйскую статыстыку па відах злачынстваў, то цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы супраць жыцця і здароўя грамадзян, у тым ліку забойствы, складаюць 10% ад агульнай колькасці злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку. Статыстыка – гэта сухія лічбы і канстатацыя фактаў. Начальніку крымінальнай міліцыі УУС Фрунзенскага раёну Мінску падпалкоўніку міліцыі Валерыю Федарэнку па службовым абавязку даводзіцца кантактаваць з рознымі людзьмі і нават з забойцамі.

*— Калі верыць расійскім дэтэктывам, то ў апошнія гады забойства стала настолькі звыклай справай, што на месца злачынства выязджае звычайная апергрупа, не ўзмоцненая ніякім начальствам. У жыцці таксама гэтак?*

— Не чытайце, Аксана, дурных кніжак. Любое злачынства супраць асобы адносіцца да катэгорыі цяжкіх. Ім аддаецца самая пільная ўвага. Усе, ад стажора аддзелу крымінальнага вышуку да начальніка ўпраўлення, працуюць суткамі, без выхадных, каб знайсці забойцу.

*— Трэба думаць, што далёка не ўсе забойствы раскрываюцца па працягу сутак або некалькіх дзён. А ў вашай, Валерый Віталевіч, практыцы быў шматгадовы росшук злачынцы?*

— У лістападзе 1994 г. двое нелюдзяў забілі жанчыну, якая прадавала аўтамабіль ВАЗ-2109, і яе сябра. На той час рэальная цана «дзевяткі» была 4-5 тысяч даляраў. Машыну прадалі за 1 300 даляраў, больш за крадзеную не давалі. У 1997 годзе аднаго забойцу мы знайшлі ў манастыры «Опціна Пустынь» пад Санкт-Пецярбургам. Тры гады ён ад нас хаваўся і штодзень чакаў... Мы паспелі яго ўзяць у самы час, бо злачынец меркаваў перабрацца ў манастыр на Салаўкі.

*— Няўжо ён замольваў грахі?*

— Вядома, не. Злачынец хаваўся і рабіў за харчаванне. Каб ён раней навучыўся працаваць, дык і забіваць нікога не давялося б. У Піцеры ў яго завялася жанчына, якая не раз потым прыязджала ў Мінск, прывозіла для яго перадачы. Можа, і дагэтуль ездзіць...

Па прыбыцці ў Мінск злачынца паказаў месца, дзе закапаны целы. Такая дэталь. Перад раскопкай імправізаванай магілы забойца даведаўся, што на жанчыне павінны быць завушніцы і кулон з брыльянтамі. Усе яго думкі былі не пра будучы суд, пакаранне, а пра тое, што ён у свой час не заўважыў каштоўнасцяў і не забраў іх. Злачынца назваў саўдзельніка, але разбор гэтай справы ідзе аж дагэтуль.

*— Згодна са статыстыкай, забойстваў робіцца менш. Ці можна гэта расцэньваць як станоўчую тэндэнцыю?*

— У асноўным забойствы ўчыняюць тыя, хто раней быў асуджаны за крадзяжы, разбоі, а таксама наркаманы. І колькасць гэтых злачынстваў расце. На жаль, сёння можна казаць пра тое, што кожны алкаголік і кожны наркаман – патэнцыяльны забойца. Таму я не магу сказаць, што мяне цешыць цяперашняя статыстыка.

Што ж, прафесіяналу відней, што хаваецца за статыстычнымі звесткамі. Пакуль што ў нашай краіне няма такой колькасці заказных забойстваў, як, напрыклад, у суседняй Расіі, пра што перыядычна паведамляюць расійскія тэлеканалы. Магчыма, таму, што ў нас мала сапраўды багатых людзей. Але беднасць заўсёды загана, і яна спараджае страшныя і бессэнсоўныя злачынствы. Хлопцу захацелася павыхваляцца, а яго забілі. Жонка стамілася ад беспрабудных п'янак мужа і таксама забіла яго. Маці-пенсіянерка не дала грошай сыну на гарэлку, а той схапіўся за сякеру. І ўсё гэта – прычыны забойстваў. Наўрад ці ў бліжэйшы час эканамічнае, сацыяльнае і маральнае жыццё нашага грамадства палепшае. Застаецца спадзявацца на міліцыю, што яна будзе абясшкоджваць злачынцаў, пакуль яны не паспелі пераступіць апошнюю рысу.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

СОЦЫУМ

# Асцярожна – Новы год!

Нягледзячы на забарону Мінгарвыканкаму на продаж піратэхнічных сродкаў, апрача бяскрыўдных бенгальскіх агеньчыкаў ды хлапушак, на мінскіх рынках ужо з'явіліся маладзёны, што цішком прапануюць мінчукам набываць самыя разнастайныя выбуховыя сродкі, каб пасалютаваць на Каляды ды Новы год. Праўда, міністэрства гандлю дазволіла прадаваць піратэхнічныя дрындушкі ў спецкрамах.

Рэйды за незаконнымі гандлярамі распачалі піратэхнікі і міліцыянты, якія толькі за апошні тыдзень выкрылі і знішчылі некалькі тысяч петард і ракет. Піратэхніка патрапляе ў нашую краіну з суседніх Польшчы і Расіі і мае кітайскае паходжанне. Набор з тузіну петардаў, прыкладам, каштуе каля 2-3 тысяч рублёў, нешта больш сур'ёзнае – феерверк ці ракету з выбуховымі вогненнымі хваламі да некалькіх дзесяткаў метраў – прадаюць па 5-15 тысяч рублёў.




Піратэхніка на Новы год – гэта не толькі бесперапынная стральніна па ўсім горадзе, а яшчэ і няшчасныя выпадкі. Кантрабандная піратэхніка мае вельмі дрэнную якасць і таму часта разрываецца проста ў руках таго, хто вырашыў ёю пабавіцца. Апошняй навагодняй ноччу ў адным толькі Мінску пацярпела каля сотні такіх аматараў што-небудзь паўзрываць. І гэта толькі тыя, хто звярнуўся па дапамогу ў медычныя ўстановы. Досыць часта пры няўдалых выбухах людзі, а гэта пераважна дзеці і падлеткі, становяцца інвалідамі. Ракета ці тая ж петарда, выбухнуўшы ў руках, можа прывесці да страты зроку і ампутацыі пальцаў. Недарэчна сваімі рукамі ператвараць свята ў трагедыю!

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Запазычанасць па заробках утойваецца

Месяц за месяцам запазычанасць па зарплаце ў Беларусі павялічваецца. Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык паведаміў, што па стане на 30 лістапада дзяржава завінавацілася работнікам 51,3 мільярда рублёў. Гэта значыць, што за месяц запазычанасць вырасла з 9,6% да 11,8% ад месячнага фонду заработнай платы.

Сярод рэгіёнаў першае месца па запазычанасцях займае Гродзенская вобласць, якая не выплаціла 8,5 мільярда рублёў, ці 19% ад месячнага фонду заработнай платы, і Магілёўшчына, якая завінавацілася 18,7%.

У.Ганчарык звярнуў увагу на тую акалічнасць, што «Гродзенская вобласць, якая мае добрыя паказчыкі ў валавым унутраным прадукце, і Магілёўская, якая адстае ў розных паказчыках, маюць прыкладна аднолькавую запазычанасць». Іншыя рэгіёны ідуць збольшага на адным узроўні – каля 13-14% ад месячнага фонду зарплаты. Прыемным выключэннем – ужо некалькі месяцаў запар – служыць Мінск, дзе запазычанасць склала 0,3% ад месячнага фонду зарплаты.

Нягледзячы на заканчэнне сельскагаспадарчага году, у загоне па-ранейшаму знаходзіцца сельская гаспадарка: 41,4 з 51,3 млрд. руб. запазычанасці прыпадае якраз на вёску. У працэнтах гэты паказчык склаў 80,7% ад месячнага фонду заработнай платы. У будаўніцтве запазычанасць складае 6%, у жыллёва-камунальнай гаспадарцы – 5%. У бюджэтнай сферы запазычанасць неістотная – дзесятыя долі працэнта, як, да прыкладу, у культуры – 0,1%.

Федэрацыя прафсаюзаў сутыкнулася з праблемай нявыплаты заробкаў па асобных міністэрствах. «Ёсць праблемы выплаты заробкаў у санаторна-курортных установах, бо не распачынаюцца за пуцёўкі; ёсць праблемы па спартовых школах, бо не ідзе датацыя, закладзеная ў Генеральным пагадненні. У нас ёсць такія факты (праўда, яны патрабуюць дадатковай праверкі), што запазычанасць па заробках утойваюць», — заявіў У.Ганчарык.

**Рыгор БУЯН**

# Па вясне застануцца адны пацукі

*Згодна з пастановай Савета міністраў «Аб дастатковых мерах па рэалізацыі праграмы ўдасканалення аграпрамысловага комплексу на 2001-2005 гады», да 1 сакавіка наступнага году аблвыканкамы павінны скласці спісы сельгаспрадпрыемстваў, якія трэба рэфармаваць у першую чаргу.*

Зразумела, мы не першыя ў справе рэфармавання. Нашы суседзі, кожны на свой капыл, рабілі ўсе гэта хутка і рашуча. У Літве, прыкладам, калгасную зямлю вярнулі тым, у каго яе адабрала савецкая ўлада. Або іх нашчадкам. Бо першай справай для літоўцаў было не захаванне «буйнатаварных гаспадарак», а аднаўленне справядлівасці. Увогуле, у Літве ды іншых краінах Балтыі галоўным у рэформе была адмена савецкіх законаў, паводле якіх гаспадароў некалі пазбавілі іх уласнасці. Галоўным была палітыка. Як заўважыла некалі Казімера Прунскене, трэба было так стукнуць па калгасах, каб ніколі і ў нікога больш у Літве не ўзнікала гэтае спакусы: адабраць у адных і падзяліць сярод іншых, знішчыць гаспадароў, а на іх месца паставіць сацыяльна блізкіх люмпенаў.

У нас з калгасамі, таксама з палітычных мэтаў, насіліся, як той дурань з пісанай торбай. Хаця калгаснікаў эксплуатавалі ў імя рынкавага сацыялізму амаль бязлітасна, практычна рабавалі. І давялі да ручкі большасць гаспадарак. Прыкладам, бягучая плацёжаздольнасць сельгаспрадпрыемстваў на 1 кастрычніка бягучага году складала 2,6 капейкі ўласных грошай на 1 рубель пратэрмінаванай запазычанасці. Гэта не тое што мала, гэта бясконца мала, каб пачаць нейкі там эканамічны рух наперад. А паколькі зараз, як гэта прадугледжана праграмай «удасканалення» (словаблудства ў нашай краіне мае крыніцы невычэрпныя), грошы дзяржава будзе даваць толькі тым, хто яшчэ мае шанц выжыць, то сітуацыя, калі вясной на канторы многіх калгасаў павесяць замкі, а адміністрацыйны персанал ды іншых калгаснікаў адправяць на вольны хлеб, цалкам верагодная. Уласна кажучы, гэта ўжо ў вялікай меры і сёння так. Бо, выключаючы пасяўную ды ўборачную, жыццё ў калгасах ліпіць толькі вакол фермаў, дзе колькасць быдла значна скарацілася. Таму пад 60 і болей адсоткаў калгаснікаў з гаспадаркай ніякай сувязі не маюць, а зарабляюць сабе на хлеб іншымі спосабамі. А збольшага ляжаць на печы, як тыя мядзведзі у бярлогах.

Звычайна рэформы праводзяцца двума спосабамі — «замкнёным» і «адкрытым». У першым выпадку будуецца дэталёвая канцэпцыя пераўтварэнняў, у адпаведнасці з якой і дзейнічаюць паслядоўна і паэтапна. Пры адкрытым варыянце робіцца пэўныя захады, вынікі іх аналізуюцца, пасля чаго ў алгарытм дзеяння ўносяцца пэўныя змены. У нас (такое ўражанне складаецца ад напляву розных праграм, якіх было пры Лукашэнку цэлая процьма) выбрана нейкая іншая метадалогія. Бо, прыкладам, перадача сельскагаспадарчых прадпрыемстваў прамысловым практыкуецца яшчэ з савецкіх часоў, і эканамічны яе вынік заўсёды быў адмоўны. Але раней прамысловыя прадпрыемствы мелі магчымасць кампенсаваць выдаткі сваіх аграрных цэхаў за кошт уласных прыбыткаў. А цяпер дзе яны, тыя прыбыткі?

Нічога ў нашых агульнаэканамічных умовах няздольна даць ні дзяленне маёмасці гаспадарак на паі (у многіх той маёмасці — адны драныя хамуты ды ржавыя касілкі), ні здача ў арэнду (які дурань стане плаціць уласныя грошы за тое, што не абяцае прыбытку), ні акцыянаванне (дывідэнды зноў жа можна атрымоўваць толькі з прыбыткаў, а не з выдаткаў, як магчыма пры калгасах). Можна пайсці і шляхам узбуйнення, далучэння эканамічных мерцвякоў да гаспадарак, якія яшчэ шавеляцца, але вынік і тут цалкам прадказальны. Бо трупны яд — гэта страшная сіла.

Нічога не дае і ўключэнне гаспадарак у адзін ланцужок з перапрацоўчымі прадпрыемствамі. Малаказаводы, прыкладам, хоць сёння маглі б узяць калгасы ва ўласнасць за іх даўгі. Так, у Віцебскай вобласці многія гаспадаркі пракрэдытаваны малаказаводамі на год наперад на той умове, што яны не скароцяць памераў паставак. А калі скароцяць? Запазычанасць спішуць, а што далей? Самі малаказаводы будуць плаціць? Такая ж сітуацыя з хлебаперапрацоўчымі прадпрыемствамі, ільнозаводамі, энергазбытам.

Да таго ж у яме ўжо не толькі прадпрыемствы, а цэлыя тэрыторыі. У асобных раёнах Віцебшчыны, па звестках Дзяржкантролю, удзельная вага фонду заработнай платы дасягае 50-80 адсоткаў выручкі. А гэта — праяданне абаротных сродкаў і будучае скарачэнне вытворчасці. Але і таго, што праядаюць, недастаткова, бо грошы на заробкі бяруць у банках, нават не абяцаючы, што калі-небудзь іх вернуць.

Карацей, збанкрутавала ўжо ўся, а не толькі калгасная эканамічная сістэма. Як той казаў, цалкам удасканалілася...

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Адказ Пракуратуры пра Курапаты

*Ніжэй НАША СВАБОДА прыводзіць цалкам на мове арыгіналу адказ Пракуратуры на зварот ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» з заклікам абнародаваць вынікі следства ў Курапатах. Такі ж дакумент крыху пазней атрымала і грамадзянская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыялу Курапаты»*



Фота IREX/ProMedia

«Прокуратурой Республики Беларусь рассмотрено Ваше обращение с просьбой об обнародовании результатов дополнительного расследования материалов уголовного дела, возбужденного в 1988 г. по факту обнаружения захоронений людей в урочище «Куропаты» вблизи Минской кольцевой автомобильной дороги.

Материалы уголовного дела с самого начала его расследования освещались в печати. Организовывались публикации в газетах и журналах, выступления по радио и телевидению, издана книга. Результаты расследования широко использовались в политической борьбе. Возникли дискуссии, споры. В прокуратуру республики стали поступать обращения от имени общественных объединений и отдельных граждан, в которых подвергались сомнению выводы следствия о том, что в захоронениях находятся только жертвы политических репрессий, и приводились аргументы в пользу того, что расстрелы людей в Куропатах могли проводиться также и немецкими оккупационными властями в годы Отечественной войны. Эти версии были разработаны при первоначальном расследовании уголовного дела недостаточно глубоко.

В связи с этим в сентябре 1997 г. постановление о прекращении дела было отменено и возобновлено производство по делу.

Как первоначальным, так и дополнительным расследованием установлено, что в 1937–1940 годах органами НКВД из мест заключения вывозились в урочище Куропаты люди и там расстреливались.

Вместе с тем имеется ряд показаний свидетелей, которые утверждают со ссылками на других лиц, что в урочище Куропаты расстрелы людей проводили также и немецкие оккупационные власти в период Отечественной войны. Однако их невозможно подтвердить объективными данными. Поиски необходимой информации по этому вопросу в архивных учреждениях республики и в России оказались безрезультатными.

При дополнительном расследовании дела были организованы раскопки 23 предполагаемых захоронений. При этом только в 9 из них оказались человеческие останки. Остальные впадины, признанные ранее захоронениями, носили характер естественного происхождения и захоронениями не являлись. На этом основании был сделан вывод, что первоначально количество жертв в захоронениях было завышено на несколько порядков.

Найдены предметы личного обихода в виде кружек, ложек, резиновой обуви и другие вещи, изготовленные в Германии, Польше, Австрии, Чехии. Каждая из сторон в политическом противоборстве трактует эти доказательства по-своему: одни — в подтверждение версии, что это немцы из европейских стран привозили людей в «Куропаты» и там расстреливали, другие – что в числе захоронений находятся останки жителей западных областей Беларуси, присоединенных к республике в 1939 г. Подтвердить или опровергнуть эти версии объективными доказательствами нет возможности.

В ряде захоронений найдены ножи, опасные бритвы, детали оружия, флакон с капсюлями, приспособление для изготовления боеприпасов. Убедительных объяснений тому, как эти вещи оказались в захоронениях, не имеется. Такая оплошность для работы органов НКВД того времени не характерна.

В процессе расследования дела удалось идентифицировать останки только трех человек. При вскрытии захоронений найдены квитанции об изъятии у них денег при аресте, датированные октябрем 1939 и июнем 1940 годов. Уголовных дел на этих лиц нет. В связи с этим нет возможности выяснить, где они проживали, чем занимались и что им вменялось в вину.

Дополнительное расследование проводилось в рамках уголовного дела, возбужденного в 1988 году, материалы которого широко освещались в печати. Достаточных оснований для повторного освещения материалов указанного дела не нахожу.

**Начальник отдела по надзору за исполнением законов в войсках и на транспорте старший советник юстиции А.В.ДОВБЫШ**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

Вельмі дзіўна выглядаюць у гэтым адказе публіцыстычныя спасылкі на нейкіх невядомых людзей, якія чулі ад іншых людзей, што немцы праводзілі масавыя расстрэлы ў Курапатах. Пракуратура РБ вельмі проста звярнуцца да архіваў КДБ, дзе ёсць паказанні мінчукоў, якія знаходзіліся ў вайну пад акупацыяй. Дзяржаўная камісія, якая расследавала злачынствы гітлераўскіх акупантаў і апытвала ваеннапалонных, карнікаў, паліцаяў, сведкаў, таксама мае ўсе дакументы аднасна месцаў расстрэлаў савецкіх грамадзянаў у Мінску ў 1941–1944 гадах. Нашто спасылацца на чуткі і пагалоскі, калі ёсць архівы? Відаць, туды ўсё ж зазіралі супрацоўнікі КДБ, калі праводзілі свае расследаванне, і нічога не знайшлі – аднosна нямецкага следу ў Курапатах.

# «Палата прадстаўнікоў» і помнік ахвярам сталінізму

Дэпутаты «палаты прадстаўнікоў» прагаласавалі супраць уключэння ў расходную частку бюджэту краіны на 2002 год будаўніцтва мемарыялу ахвярам сталінскага рэжыму ў Курапатах. З 81 дэпутата, што прысутнічалі на паседжанні, толькі 15 выказаліся «за». Астатнія галасавалі супраць альбо не ўдзельнічалі ў галасаванні.

Старшыня Камісіі ў справах бюджэту, фінансаў і падатковай палітыкі Сяргей Кісялёў паведаміў, што камісія не падтрымлівае прапановы дэпутата Уладзіміра Навасяда, паколькі праект помніка ў Курапатах не значыцца ў адмысловым спісе пажаданых аб'ектаў манументальнай скульптуры.

А спікер Вадзім Папоў дадаў, што ўвогуле будаваць помнік у Курапатах, можа, і трэба, але «не за бюджэтныя грошыкі».

**Уладзімір ГЛОД**
**Радыё Свабода**

# Урочышча рэпрэсаваных

*13 снежня на спецыяльнай прэс-канферэнцыі гісторыкі і археолагі, каторыя займаюцца праблемай Курапатаў, пракаментавалі адказ з Пракуратуры.*

Вядомы гісторык Ігар Кузняцоў катэгарычна абвяргае версію пра нямецкі след. «Рабіліся запыты і ў Ізраіль, і ў Германію. Усе нямецкія архівы адказалі адмоўна. КДБ Беларусі таксама не валодае ніякімі дакументамі, якія хоць бы ўскосна пацвярджалі «нямецкі след», – сказаў І.Кузняцоў. Гісторык пацвердзіў, што сапраўды ў Курапатах знойдзена некалькі стрэляных гільзаў ад пісталетаў «Браўнінг», «Вальтэр», вінтоўкі «Маўзер» — штатнай зброі нямецкага войска; аднак 98% стрэляных гільзаў належаць рэвальверу «Наган», які знаходзіўся на ўзбраенні НКУС.

З улікам пашырэння Мінскай кальцавой дарогі да броўкі да найбліжэйшых пахаванняў застаецца недзе 60-80 метраў. «На месцы, дзе праходзіць пашырэнне дарогі, магілаў няма. Але сама дарога праходзіць па тэрыторыі гісторыка-культурнага помніка», – кажа гісторык Валянціна Вяргей.

Сябры камісіі, археолагі Андрэй Мяцельскі і Валянціна Вяргей: — Да прыкладу, у апошняй магіле, дзе былі знойдзеныя парэшткі 370 чалавек, людзей склалі штабелямі, перасыпалі зямлёй, а зверху распалілі вогнішча з іхнягa адзення і рэчаў. Былі знойдзеныя абутак 1930-х гадоў, кубкі, грэбні, нават паперы пра канфіскацыю рэчаў. Немцы дакументаў на адабраныя рэчы, наколькі мне вядома, не выдавалі. Акрамя таго, у магілах не было знойдзена парэшткаў ніводнага дзіцяці, а як стралялі немцы — вядома. Знойдзеныя рэчы кажуць пра тое, што людзей адпраўлялі ў Курапаты адразу з этапу, адкуль яны прыбывалі са сваімі пажыткамі. Значыць, людзей не трымалі ў камерах і не праводзілі ніякага следства. Гэта сапраўдны генацыд. Падобнае па маштабах злачынства адбывалася хіба толькі ў Камбоджы. Гэта была грамадзянская вайна ўзброенай улады супраць бяззбройнага народу.

Грамадзянская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» абвяцае абнародаваць канцэпцыю мемарыяльнага помніка ў Курапатах. Бліжэйшым часам ініцыятыва збіраецца агарадзіць тэрыторыю ўрочышча, паставіўшы на ўваходзе дзве брамы. У прынцыпе ж ініцыятыва будзе змагацца за выкананне Саветам міністраў пастановы «Аб увекавечанні памяці ахвяраў масавых рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў у лясным масіве Курапаты», прынятай яшчэ ў 1989 годзе. Паводле пастановы, у Курапатах мусіў быў усталяваны помнік. Калі да адказу з Пракуратуры ініцыятыва планавала правесці мемарыялізацыю ўрочышча за кошт ахвяраванняў, то цяпер усур'ёз ставіцца пытанне пра дзяржаўнае фінансаванне помніка. Больш за тое, ініцыятыва мяркуе правесці мемарыялізацыю ўсіх пахаванняў ахвяраў рэпрэсіяў – падобныя аб'екты знойдзены ў 48 паселішчах Беларусі.

**Рыгор БУЯН**

# Беларускамоўных школ стане больш

Месца беларускай мовы ў сістэме адукацыі – і ў сярэдняй школе, і ў вышэйшай – па-ранейшаму застаецца падчаркавым. Як паведамілі ва ўправе агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства адукацыі Беларусі, у гэтым навучальным годзе выкладанне прадметаў па-беларуску вядзецца ў 2.773 школах з 4.506, якія ёсць у краіне. Здаецца, што захоўваецца парытэт паміж прысутнасцю ў школах рускай і беларускай моваў. Насамрэч гэта ўсё не так. Большасць беларускамоўных школаў знаходзіцца ў сельскай мясцовасці, а насельніцтва ў нас болей у гарадах, вось і выходзіць, што тых, каго навучаюць беларускай мовай, — толькі 20% ад усіх вучняў.

У беларускіх гарадах і гарадках па-беларуску вядуць навучанне ўсяго 49 школ. Найбольш беларускамоўных сярэдніх навучальных установаў у Мінскай вобласці – 22, на Гродзеншчыне – 9, на Віцебшчыне – 5, на Гомельшчыне і ў Мінску – па 4, на Брэстчыне – усяго 2 беларускамоўныя школы, а ў Магілёўскай вобласці – наагул толькі 1. У 1990 годзе па ўсёй краіне ў гарадах было толькі 5 школ, але ў хвалі беларусізацыі ўжо ў 1994-95 навучальным годзе ў больш як палове пачатковых класаў навучанне пачалося на беларускай, тады адзіна дзяржаўнай мове. Адкат адбыўся пасля рэферэндуму, які замацаваў у Беларусі білінгвізм.

Відаць, нават уладам стала няёмка ад тае дыскрымінацыі беларускай мовы, якую ён прынёс. Улетку 2001 году ў міністэрстве адукацыі распрацавалі праграму дадатковых захадаў па пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Паводле яе, ужо з наступнага навучальнага году працэнт беларускамоўных школ пачне расці. Такія школы мусяць з'явіцца, а дакладней, перапрафіляваца на беларускамоўнае навучанне ў кожным раёне Беларусі і ў кожным мікрараёне буйных гарадоў. Такім чынам, бліжэйшымі гадамі ў Беларусі паболее як мінімум на сотню беларускамоўных школ. Тое самае тычыцца і дзіцячых дашкольных установаў і некалькіх ВНУ.

Што да кадраў для беларускамоўных школ, то ва ўправе агульнай сярэдняй адукацыі мінадукацыі лічаць, што праблемаў з іх нястачай быць не павінна. Пры гэтым, як паведамілі ў міністэрстве, ніякіх заахвочвальных захадаў для беларускамоўнага выкладання ў выглядзе заробкавых надбавак, як тое было ў 90-х гадах, рабіцца не будзе.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Вяртанне мінскай мячэці

Як паведаміў муфтый беларускіх татараў Ісмаіл Александровіч, вясной 2002 году ў беларускай сталіцы пачнуцца будаўнічыя работы па аднаўленні мінскай мячэці, разбуранай савецкімі ўладамі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя (цяпер на тым месцы гасцініца «Юбілейная»).

Пляцоўку пад адбудову мячэці мінскія ўлады выдзелілі яшчэ дзесяць гадоў таму, але грошы на справу знайшліся толькі цяпер – ад мецэната з Саудаўскай Аравіі, які спрыяе з'яўленню мячэцяў па ўсёй Еўропе. Ён чакаў заканчэння Рамазану, каб прыехаць у Мінск і заключыць дамову з будаўнікамі. Гэты мусульманскі пост завяршыўся 16 снежня, і бліжэйшымі тыднямі беларускія татары чакаюць візіту прадстаўніка дабрачыннай арганізацыі з Саудаўскай Аравіі.

Тым часам мінскія татары накіравалі ў Мінгарвыканкам ліст з просьбай вызваліць іх пры будаўніцтве мячэці ад падатку на развіццё інфраструктуры гораду, які мусяць плаціць усе забудоўшчыкі. Для татарскай грамады гэты падатак раўняецца 95 мільёнам рублёў. Мінскія мусульмане кажуць, што ім трэба даць палёгку, бо яны ж, маўляў, не банк хочуць будаваць і не стаянку, каб зарабляць грошы. Дарэчы, тры гады таму сталічныя гарадскія ўлады былі вызвалілі татараў ад гэтага падатку, але цяпер зноўку ім абклалі.

Мячэць з'явіцца на скрыжаванні вуліц Грыбаедава і Тарханава, каштаваць яна будзе каля 1,5 мільёна даляраў.

**Ахмат МАНУЙЛА**



Знесеная ў 1962 годзе мінская мячэць. Яна стаяла на тым месцы, дзе зараз узвышаецца гмах гатэлю «Юбілейны»



# Дракула будзе служыць грамадству

*Румынскі ўрад вырашыў стварыць «Парк Дракулы». Такі незвычайны парк, на думку ініцыятараў праекту, павінен падтрымаць цікавасць шматлікіх турыстаў да мясцін, звязаных з сусветна вядомым трансільванскім вампірам, і адпаведна абярнуцца немалым прыбыткам для дзяржавы.*

Аднак нечакана гэтыя планы ўраду асудзілі царкоўныя лідэры Румыніі. «Міф пра Дракулу ніяк не адносіцца да румынаў ці іхняй гісторыі», — заявіў прадстаўнік Румынскай праваслаўнай царквы Бухарэсцкага патрыярхату Косцел Стойка. Па яго словах, «ён дае няправільнае ўяўленне пра нашу краіну і паходзіць на самой справе з ірландскай фантастыкі».



Гэтая заява была рэакцыяй на вотум румынскага сената 19 лістапада, які зацвердзіў пастанову міністэрства турызму аб стварэнні «Парку Дракулы» паблізу гораду Сігішаара на поўначы Румыніі. Ён сказаў, што з праваслаўнай царквой ніхто не кансультаваўся, ёй нават не паведамілі пра падрыхтаваны праект, супраць якога епархія архіепіскапа Альбы Іюліі склала фармальны пратэст.

Косцел Стойка адзначыў, што ідэя стварэння «Парку Дракулы» была адной з некалькіх «спецыфічных ідэяў», прапанаваных на разгляд Агатонам, сябрам правячай Сацыял-дэмакратычнай партыі. «Разумеючы, што значыць міф пра Дракулу ў заходніх краінах, Агатон імкнецца атрымаць з гэтага прыбытак», — заявіў прадстаўнік праваслаўнай царквы. Ён спрабаваў давесці, што парк толькі «ўмацуе навязлівыя думкі аб звышнатуральным сярод моладзі».

У Дракулы, чый вобраз быў створаны ірландскім навелістам Брэмам Стокерам у 1897 годзе, як лічаць некаторыя даследчыкі, ёсць рэальны прататып — Улад Цэпеш (ці Улад Імпалер), які жыў у XV стагоддзі, гаспадар румынскай правінцыі Валахіі, вядомы жорсткім абыходжаннем з палоннымі туркамі і непакорнай знаццю. Князь, чыё папулярнае імя — Дракула — паходзіла ад ордэна Дракона, вырашыў абараніць хрысціянства ад турак і паспеў умацаваць будучую сталіцу Румыніі Бухарэст, перш чым быў забіты. У Стокеравым рамане Дракулу забілі, увагнаўшы яму ў сэрца нож.

«У Румынскай праваслаўнай царквы няма афіцыйнага пункту гледжання адносна Цэпеша», — сказаў Стойка. Нягледзячы на сваю жорсткасць, ён становічы герой румынскай гісторыі, сімвал «справядлівасці, аддадасці і патрыятызму».

Планы ўраду асудзіла і Пратэстанцкая царква Румыніі, якая заявіла, што гэта парушае прыроднае асяроддзе і падвышае цікаўнасць да акультызму. «Мы настойваем, каб для прыродных і гістарычных рэсурсаў гэтага рэгіёну знайшлі іншы ўжытак», — сказаў старшыня кансісторыі ў сваёй заяве. Згодна з ёю, «сусветна вядомыя і прызнаныя хрысціянскія і чалавечыя каштоўнасці трапляюць у небяспеку з-за гэтай спробы прапаганды забаваў і гульняў, заснаваных на жорсткасці, акультызме і вампірызме».

Галоўны вікары Грэка-Каталіцкай царквы ў Румыніі Крысціян Сабау таксама скрытыкаваў урад, «які робіць грошы на фальшывым міфе». Ён сказаў, што легенда пра Дракулу груба сказіла спадчыну Улада.

Тым не менш, міністр культуры Дан Агатон ужо распачаў пошук найлепшага месца для будучага парку ў межах нацыянальнага ляснога абшару каля Сігішаары. Арганізатары мяркуюць, што колькасць наведнікаў «Парку Дракулы» складзе каля мільёна чалавек на год і што асаблівую цікавасць будзе выклікаць сярэднявечны горад, які ўвойдзе ў спіс каштоўнасцяў сусветнай культурнай спадчыны *UNESCO*.

**Соф'я ВЯДЗЮШКІНА**



# Элементарна, дарагі Ватсан

## *Італьянскі пісьменнік Умберта ЭКА аналізуе сусветна вядомыя апавяданні Канан Дойля*

*Пакуль што пра тое, што рэальна адбываецца ў Афганістане, дакладнай інфармацыі не надта многа, але дастаткова проста ўважліва прачытаць тое, што ёсць.*

Чалавек, пра якога я раскажу, паступіў у вайсковую службу доктарам у часе англійскай экспедыцыі ў Афганістан, апынуўся ў палку *Royal Berkshire*, шыхтам якога давялося сутыкнуцца з афганцамі на паўночным захадзе Кандагару, дзесьці паблізу Мундабаду. У разведвальнай інфармацыі ад спецслужбаў мела месца памылка. Англічане атрымалі звесткі, што афганцы ўзброены горш, чым меркавалася. Яны пайшлі ў атаку і іх разграмілі, сама менш на сорак працэнтаў, у горным праходзе Хушкі Нахуда. Горныя праходы ў гэтай краіне вельмі няпростыя, і, як падказваюць хронікі, афганцы не маюць звычаю браць палонных.

Наш сябра быў паранены ў плячо, атрымаўшы кулю з забойчага, хоць і старадаўняга мушкета. Куля раздрабіла яму костку і парвала падключычную артэрыю. Ён выжыў цудам, дзякуючы найперш свайму мужнаму дзеншчыку. Папраўляцца вярнуўся ў Лондан.

А далей адбываецца наступны эпізод. Сустрэўшы чалавека, з якім пасяліўся ў адной кватэры, наш герой пачуў: «Наколькі я бачу, Вы пабывалі ў Афганістане». Праз некаторы час ён папрасіў патлумачыць, адкуль той даведаўся, і атрымаў наступны адказ: «У гэтым чалавеку ёсць нешта ад лекара і нешта ад ваеннага. Ён быў у тропіках, бо яго твар надта цёмны, але гэта не яго натуральны колер, улічваючы светлыя запясці. Ён перанёс нягоды і хваробу, пра гэта кажа яго знясілены твар. Апроч таго, ён быў паранены ў левую руку. Яна не рухаецца, і ён трымае яе ненатуральна. У якой трапічнай краіне лекар брытанскага войска мог цярпець такія цяжкія выпрабаванні? Натуральна, у Афганістане».

Гэтая размова адбываецца на Бейкер-стрыт, лекар — доктар Ватсан, а яго суразмоўца — Шэрлак Холмс. Ватсана паранілі ў бітве, якая тады называлася Майвандскай і адбылася 27 ліпеня 1880 году. У Лондане паведамленне пра яе з'явілася ў *The Graphic* 7 жніўня (тады навіны прыходзілі са спазненнем). А мы даведваемся пра гэта з першых раздзелаў «Эцюду ў барвовых танах».

Водгук гэтай падзеі Ватсан пераносіць і ў іншыя творы. У апавяданні «Тайна Боскамскай даліны» ён сцвярджае, што афганскі вопыт навучыў яго быць уважлівым і трывалым падарожнікам. Але калі, у «Знаку чатырох», Холмс прапануе яму какаін (сяміпрацэнтны раствор), Ватсан адказвае, што пасля афганскай кампаніі якога-нае цела не выносіць эксперыментаў, а далей згадваецца, што яму падабалася сядзець, пагладжваючы параненую руку, якая пачынала балець пры змене тэмпературы. У «Абрадзе дому Масгрэйваў» Ватсан разважае пра тое, якія глыбокія сляды пакінула ў ім афганская



кампанія.

На самой справе Ватсан мог бы бясконца расказваць пра тую кампанію, але звычайна людзі яго не слухалі. З цяжкасцю (у «Рэйгецкіх сквайрах») ён угаворвае Холмса наведаць яго таварыша па зброі, палкоўніка Хэйтэра; у «Марской дамове» ён беспаспяхова намагаецца зацікавіць сваімі афганскімі прыгодамі нейкага Фэлпса, персанажа нервовага і сумнага; у «Знаку чатырох» ён імкнецца распавясці пра тую вайну міс Морстан, і яму ўдаецца выклікаць яе цікаўнасць адзін-адзіны раз. Ветэраны, асабліва параненыя, звычайна выклікаюць нуду.

Але ўспамін пра Афганістан усцяж прысутнічае. У «Пустым доме», кажучы пра Марыярці, самага вялікага ворага Холмса, ён упісвае яго ў схему палкоўніка Морана, «другога самага небяспечнага чалавека ў Лондане», які служыў у Кабуле. Рэха афганскай вайны з'яўляецца і ў «Гарбуну».

І нарэшце, у «Кардоннай скрынцы» і ў «Пастаянным пацыенту» Холмс здзяйсняе шэдэўр таго, што ён іранічна называе дэдуктыўным метадам. Яны з Ватсанам спакойна сядзяць у сваіх апартаментах, і раптам Холмс нечакана кажа: «Вы маеце рацыю, Ватсан, гэта мне здаецца самым недарэчным спосабам вырашэння спрэчак». Ватсан быў задумаўся, але потым запытаўся ў Холмса, як той даўмеўся пра яго думкі. Аказваецца, што, назіраючы за рухам вачэй Ватсана па розных рэчах пакоя, Холмс здолеў дакладна адрадзіць ход яго думак, аж да таго, што, зразумеўшы, што прыяцель узгадвае розныя жахлівыя эпізоды вайны, і ўбачыўшы, што ён кранае сваю старую рану, Холмс здагадаўся, што Ватсан сумна разважае пра вайну як пра самы абсурдны спосаб вырашэння міжнародных праблемаў. Элементарна, дарагі Ватсан.

**L'Espresso online**

# У ЗША бум зброі

Вядома, што валоданне зброяй уваходзіць у стыль жыцця жыхароў шмат якіх амерыканскіх штатаў. Але пасля 11 верасня жаданне мець дома ці пры сабе ўласную зброю ператвараецца ў ідэю-фікс бальшыні насельніцтва. У крамах штату Арызона продаж зброі павялічыўся на 40%. У Масачусетсе інструктары па валоданні зброяй паведамляюць, што колькасць курсантаў вырасла на 50%. У Вірджыніі Нацыянальная асацыяцыя стралкоў адзначае, што ў чаргу на трэніроўкі, каб атрымаць дазвол на асабістую зброю, запісваюцца на месяц наперад. У Фларыдзе адзначаны рост падробак дакументаў, неабходных для атрымання права насіць зброю, на 50%. Сацыялагічныя апытанні паказалі, што праз месяц пасля тэракту імкненне амерыканцаў зрабіць больш жорсткім закон, які дазваляе валоданне і карыстанне агнястрэльнай зброяй, значна паменшылася. Цяпер толькі 53% апытаных выступаюць за суровыя меры, тады як цягам апошніх дзесяці гадоў колькасць такіх людзей ніколі не апускалася ніжэй за 60%.

**Christian Science Monitor**

# Выстава для амерыканцаў

Дзеля псіхалагічнай падтрымкі амерыканскага грамадства, якое перажывае трагедыю тэрактаў 11 верасня, Ватыкан пагадзіўся адправіць у ЗША на часовую экспазіцыю збор шэдэўраў хрысціянскага мастацтва на сюжэт народзінаў Ісуса Хрыста. Выстава была адкрытая 11 снежня ў музеі *Knights of Columbus* у Нью-Хэвене. У калекцыю ўваходзяць шматлікія творы мастацтва са сцэнамі нараджэння Сына Божага, выкананыя ў розныя часы майстрамі розных народаў. Па часе стварэння гэтыя шэдэўры ахопліваюць паўтара тысячагоддзі, а геаграфічна прадстаўляюць усе краіны, дзе хрысціянская вера атрымала прызнанне і дзе былі мастакі, якія адлюстравалі гэты сюжэт у сваіх творах.

Усе экспанаты незвычайнай выставы будуць паказаны шырокай публіцы ўпершыню — дасюль гэтая калекцыя шэдэўраў хрысціянскага мастацтва захоўвалася ў Ватыкане бязвыезна. У Ватыкан выстава вернецца пасля свайго турнэ за акіян. Арганізацыя выставы стала магчымай дзякуючы намаганням Арганізацыі рымскіх каталікоў.

**Ева САЛАВЕЙ**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 17 – 23 снежня

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Калі вы не так даўно рыхтавалі глебу да супрацоўніцтва з салíднымі людзьмі, структурамі, з замежнымі прадстаўнікамі, то ў сярэдзіне тыдня можа акрэсліцца рэальны матэрыяльны плён. Аднак някепска было б падрыхтаваць «запасны аэрадром», бо сёй-той не дрэмле і можа прад'явіць прэтэнзіі, абмежаваць вашыя паездкі. Пад выходныя сцеражыцеся падзенняў, пераломаў, нападаў.



**ЦЯЛЕЦ.** У сярэдзіне тыдня вам можа пашчасціць на каштоўныя прапановы або перспектывы ў выніку выпадковых сустрэч. Пад выходныя ёсць сэнс асцерагчыся весці справы з неправеранымі сябрамі або з тымі, хто сядзеў – можна шмат страціць. Акрэсліваецца поспех у педагагічнай, навуковай або вучэбнай дзейнасці. Нехта пачынае супрацоўнічаць з вашым сужонкам.



**БЛІЗНЯТЫ.** У сярэдзіне тыдня вы здатныя дамагчыся льготаў і некаторых свабодаў у дзейнасці, звязанай з працаю цэлага калектыву, а таксама ў навуковай, адукацыйнай і культурнай сферы. Начальства можа паводзіць сябе непаслядоўна, неразумна — наспявае канфлікт. Някепска было б прадумаць усе магчымыя бюракратычныя хады, прызапасіць дзелавыя паперы і рацыянальныя аргументы.



**РАК.** Вам перашкаджаюць ува ўладных, уплывовых кругах або прававых структурах, дзейнічаючы часам проста нахрапам. Калі ў вас няма партнёраў, то давядзецца тугавата. Пад выходныя не выключана абвастрэнне хранічнага альбо латэнтнага захворвання, а таму загадзя падумайце пра сваё здароўе. У сярэдзіне тыдня вам могуць на працы падказаць цікавыя ідэі і звесткі пра новыя магчымасці заробку.



**ЛЕЎ.** Вы гуляеце з абранай «ахвярай» або публікай у сярэдзіне тыдня, як котка з мышкай, і атрымліваеце асалоду ад працэсу – нават калі гэта каханне. Пад выходныя павышаецца верагоднасць няшчаснага выпадку – асцерагайцеся пераломаў, нападаў, асабліва ў далёкіх паездках, вам пажадана ўсё ж быць бліжэй да дому. Хутчэй афармляйце ўсе патрэбныя дакументы на нерухомасць, кватэру.



**ПАННА.** У сярэдзіне тыдня – прыемная навіна, якая можа быць абмеркавана за «смачным» сталом. Пад выходныя для грамадскіх дзеячаў ствараецца рэальная пагроза рэпутацыі і прафесіяналізму – на вайне як на вайне. Для астатніх – у сужонка не выключаны зрывы або экстрэмальныя акалічнасці. Творча пралічыце ўсе магчымыя варыянты, аформіце неабходныя дакументы, дамовы – і вы будзеце ў бяспецы.



**ШАЛІ.** Вы някепска пабавіцеся, сустрэнецеся з цікавымі людзьмі, можаце накрэсліць будучыя праекты ў сярэдзіне тыдня. Але пад выходныя некаму не спадабаецца вашая грамадская дзейнасць, стаўленне да партнёраў – акрэсліваецца актыўнае процістаянне. Матэрыяльныя інтарэсы вырашаюць многае, вам някепска было б валодаць і граматна маніпуляваць грашыма, але быць па-за падозраннямі, на ўсё патрэбна паперка.



**СКАРПІЁН.** У сярэдзіне тыдня накрываецца стол для прыемных людзей. Набліжаецца рашучы момант у каханні або ў стасунках з дзецьмі. Калі тон кантактаў будзе дыктатарскі і заснаваны на старых устаноўках, то акрэсліваецца канчатковы разрыў. Калі ж вы жадаеце захаваць стасункі, то трэба пільна сачыць за словамі, пралічваць крокі і не прад'яўляць прэтэнзіяў, давядзецца пераглядаць тактыку.



**СТРАЛЕЦ.** Не выпусціце з рук фартуны на працы, кантактаў з перспектыўнымі людзьмі, сустрэчы з Музай у сярэдзіне тыдня. А вось у сямейным жыцці цярпенне можа скончыцца. Патрабуецца доказ вашай заможнасці і арыентацыі на побыт, уменне пастаяць за інтарэсы дзіцяці. Бліжэй да выходных нехта глыбока падкопваецца пад вас, глядзіць у корань. Падумайце пра абарончыя барыкады.



**КАЗЯРОГ.** У сярэдзіне тыдня ёсць верагоднасць нечаканай дапамогі ў грошах – вам ідуць насустрач, рабіце ўсё хутка. Сілы прыбываюць. Бліжэй да выходных ад вас запатрабуюцца неадкладныя захады, каб ахаваць здароўе сваё ці блізкіх людзей, абараніцца ад нападаў – час вырашае ўсё, не спадзявайцеся на шчаслівы выпадак. Загадзя пралічыце ўсе варыянты з тымі, хто здатны вас падстрахаваць ці абараніць.



**ВАДАЛІЎ.** Не варта спадзявацца на любімых, лепш адразу настроіцца на рацыянальную ўзаемную выгаду людзей пабочных або знаёмых, якія змогуць вам памагчы. Матэрыяльны фактар вырашае ўсё, і калі вы выберацe памылковую тактыку ці бяздумна пойдзеце на рызыку, то апынецеся ў вялікім пройгрышы. Стварайце тайны рэзервовы фонд або з'ездзіце адпачыць на прыроду, каб набрацца сілаў.



**РЫБЫ.** Прафесійныя дасягненні — свае ці любімага чалавека — у сярэдзіне тыдня даюць задаволенасць жыццём і напаўняюць сіламі для здзяйснення рэформаў або новаўвядзенняў. Ад вашых дзеянняў залежыць дабрабыт родных, вельмі важна не спатыкнуцца, граматна распарадзіцца фінансамі, не рызыкаваць у пытаннях нерухомасці, абвастрэння хваробы ці апендыцыту. Сужонак і дзеці гатовыя вас падтрымаць, як спатрэбіцца.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1797 Нумар падпісаны ў друк 16/12/2001 (15:00) Наклад — 9.090